

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4833) 21 жніўня 2015 г.




## Пункцірам

✔ Кіраўнік дзяржавы выказаў спачуванні родным і блізкім народнага артыста Беларусі Сяргея Жураўля. «Творчасць Сяргея Барысавіча яркімі старонкамі ўпісана ў гісторыю сучаснага беларускага мастацтва. Унікальны талент і бліскучае выканальніцкае майстэрства гэтага артыста знайшлі сваё ўвасабленне ў мностве выдатных роляў, якія аказалі значны ўплыў на развіццё беларускага тэатра і заваявалі любоў гледачоў розных пакаленняў», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Алега Табакова з юбілеем. «На працягу многіх гадоў Вы робіце вялікі ўнёсак у развіццё тэатра і кіно як таленавіты акцёр, рэжысёр і педагог. У Беларусі Ваша творчасць карыстаецца глыбокай павагай прафесіяналаў і прызнаннем публікі», — адзначана ў віншаванні.

✔ Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы адкрые 72-і сезон прэм'ерай па паэме Адама Міцкевіча «Дзяды». Сумесную работу брэсцкіх артыстаў і іх калег з Польшчы гледачы ўбачаць у верасні. Ствараецца праект (у афішы пазначаны як абрадавая драма) пры падтрымцы варшаўскага Інстытута Адама Міцкевіча. Рэжысёр беларускамоўнага спектакля — паляк Павел Пасіні. Мастак-пастаноўшчык Алена Лола Лолі з Польшчы.

✔ Заўтра Зэльва запрашае гасцей на традыцыйны «Ганненскі кірмаш». Свята з глыбокімі гістарычнымі каранямі пачнецца апоўдні і завершыцца на світанні. Адкрыецца кірмаш тэатралізаваным паказам на цэнтральнай плошчы. Жыхароў Зэльвы і гасцей будуць забаўляць ансамбль народнай музыкі і танца «Купалінка», іншыя артысты. Арганізатары падвядуць вынікі конкурсаў на лепшы касцюміраваны калектыў, лепшую прэзентацыю аграсядзіб, лепшы каравай.

✔ Маладыя энтузіясты ствараюць 40-метровую панараму Гродна на падпорнай сцяне каля падножжа Замкавай гары. Ужо можна ўбачыць контуры моста праз Нёман і Бернардзінскага касцёла. Наогул жа панарама пакажа Гродна такім, якім ён быў у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў.

✔ Выстаўка старадаўніх люстэркаў з вобразнай назвай «Шкло, якое гаворыць праўду» адкрылася ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. У экспазіцыі — больш як 20 насценных, настольных, туалетных люстэркаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя са збору музея і прыватнай калекцыі Сяргея Пуцiліна.

✔ На працягу ўсяго лета ў вялікай зале браслаўскага музея традыцыйнай культуры дзейнічае выстаўка «Мястэчковы побыт», якая адлюстроўвае жыццё беларускіх мястэчак пачатку XX стагоддзя. Экспазіцыя аформлена ў выглядзе 5 пакояў — фотамайстэрні, кухні, гасцінай, пакоя модніцы, спальні музыкі.


ISSN 0024-4686






**Пад радкамі Алеся Ставера «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…» маглі б падпісацца многія беларусы, у тым ліку — паэты, у тым ліку — Янка Купала. Лёс заводзіў яго ў Расію і Татарстан, Фінляндыю і Чэхаславакію… Сёння шляхі Купалы не забываюцца. Самы яскравы доказ таму — нядаўняе падарожжа беларускіх дзеячаў культуры ў Славакію, падчас якога памяць пра паэта не толькі ўзнаўлялася, але і «замацоўвалася»: была заключаная не адна дамоўленасць пра ўсталяванне мемарыяльных шыльд у розных мясцінах Славакіі, дзе колісь гасцяваў беларускі паэт.**



Фота Кастуся Дробава.

# Прыўкраснае далёка



Работа Альберта Цэхановіча «Варшава. Старэ Място».

Своеасаблівым працягам гэтага падарожжа варта лічыць фотавыстаўку, якая адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы: Альберт Цэхановіч прэзентуе шэраг работ пад агульнай назвай «Далёка».

Гэта другая частка фатаграфічнага праекта «Падарожжа з Купалам», якая мае на мэце стварыць візуальныя вобразы мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю паэта. Распачала ж яго выстаўка Вольгі Сяргеевай «Блізка», якая дазволіла па-новаму ўбачыць Купалаўскую Беларусь — Вязынку, Мінск і шэраг мясцін паўночнай Беларусі.

Няцяжка здагадацца, што «Далёка» — гэта Купалава замежжа, яго погляд на новае, адрознае. Альберт Цэхановіч не проста фатаграфічна занатоўвае — ён шукаў прысутнасць паэта і імкнуўся яе перадаць. І гэта адчувальна: работы, выкананыя ў адмысловай тэхніцы — срэбныя адбіткі на барытавай графічнай паперы, — маюць асаблівы настрой, часам лагодны, часам містычны — як і паэзія Янкі Купалы.

Работы фотамастака выстаўляюцца без подпісаў, але кожная серыя мае сваю перадгісторыю. Так, шэраг работ прысвечаны Санкт-Пецярбургу. Вядома, што ў культурнай сталіцы Расіі Купала пачуваўся не вельмі ўтульна. Пражыўшы там чатыры гады, ён не прысвяціў гораду ніводнага верша. Альберт Цэхановіч паказвае Санкт-Пецярбург менавіта такім: заімглёным, змрочным, панурым і ўсё ж — велічным.

Адсюль Янка Купала выправіўся ў Фінляндыю. Як своеасаблівы парафраз апублікаванага ў «Нашай Ніве» яго дарожнага нарыса «Дмукі з пабыцця ў Фінляндыі на Іматры» ўспрымаецца серыя «На Іматру», знятая ў ваколіцах Выбарга.

Натхненнем для фатаграфій серый «Крым» і «Ай-Петры» сталі радкі Янкі Купалы, створаныя ім падчас адпачынку ў Гаспры, што ў ваколіцах Ялты. Для стварэння апошняй серыі работ — «Пячышычы» — Альберт Цэхановіч выправіўся ў Казань.

Так, усе гэтыя мясціны адрозныя, але фотамастак знітаваў іх асаблівым настроем, а рэдкая сёння тэхніка стварыла «эфект успаміну»: адны пейзажы бачацца нібыта скрозь дымку часу, іншыя падобныя да старых паштовак, а трэція патыхаюць холадам і адчужанасцю.

Як адзначыла дырэктар музея Алена Ляшковіч, стала добрай традыцыяй прадастаўляць фотамастакам выставачную пляцоўку ў доме Купалы. Можна меркаваць, што на гэтым падарожжы з Купалам не скончацца.

— Купалаўскіх мясцін на зямным шары сапраўды вельмі шмат. Мы вывучалі гісторыю ўшанавання імя паэта ў свеце і натрапілі на вельмі цікавыя факты. Напрыклад, яшчэ пры жыцці Купалы, у 1932 годзе, у бразільскім горадзе Порту-Алегры бібліятэцы-чытальні было нададзена яго імя. Магчыма, хтосьці з нашых фотамастакоў аднойчы наведае Бразілію і завітае ў тую бібліятэчку…

З адкрыццём выстаўкі Альберта Цэхановіча павіншавалі калегі Марына Бацюкова і Юрый Васільеў. Пазнаёміцца з работамі фотамастака можна да 31 жніўня.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Апошнія хвіліны вечнасці

**Дзень памяці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, які пайшоў з жыцця 59 гадоў таму, распачаўся хвілінай маўчання — у тым самым доме, дзе ён працаваў да апошніх сваіх хвілін. Сэрца спынілася ў 13.20, але душа, вялікая і шчырая, засталася ў вечнасці.**

Кожны год, 13 жніўня, на Вайсковых могілках у Мінску да Песняра нясуць жывыя кветкі, зазвычай гваздзікі, якія ён вельмі любіў. Сёлета традыцыя не парушылася.

Якуб Колас, якога мы ведаем не толькі як ставаральніка паэтычных шэдэўраў, але і перакладчыка, крытыка, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча, зрабіў сябе сам, бо шмат увагі надаваў самаадукацыі. Ён спасцігаў, у тым ліку, свет класічнай рускай літаратуры: праз байкі Крылова ў дзяцінстве, а потым і філасофскія творы Лермантава, лірыку Някрасава і Кальцова, прозу Гогаля і Дастаеўскага.

Фёдар Міхайлавіч згаданы невыпадкова: у межах правядзення Дня памяці Якуба Коласа было падпісана доўгатэрміновае пагадненне паміж дамамі класікаў у Мінску і Санкт-Пецярбургу. Дырэктары Літаратурна-мемарыяльных музеяў Коласа і Дастаеўскага Зінаіда Камароўская і Наталля Ашымбаева дамовіліся аб актыўным творчым супрацоўніцтве. У хуткім часе плануецца абмен выстаўкамі, наладжванне сумесных праектаў, удзел у навуковых канферэнцыях.

«Нашы музеі вельмі падобныя: іх аб'ядноўвае асаблівая атмасфера жыццялюбства і творчасці. Пісьменнікаў жа можна параўнаць калі не ў жанрах, то ў глыбокай падачы псіхалагічных вобразаў. У Дастаеўскага і Коласа ёсць духоўная сувязь», — зазначыла Зінаіда Камароўская.

Наталля Ашымбаева, у сваю чаргу, падкрэсліла: «У нас, беларускага і рускага народаў, вельмі шмат кропак судакранання. Нягледзячы на тое, што Дастаеўскі быў майстрам вялікай прозы, а Колас — паэзіі, у іх шмат агульнага, ёсць нейкае глыбіннае сваяцтва». Паводле яе слоў, Якуб Колас цаніў і любіў Дастаеўскага, што пацвярджаюць нататкі паэта. «Спадзяюся, што мінскія жыхары ў наступным годзе змогуць пазнаёміцца з матэрыяламі пра жыццё і творчасць Фёдара Міхайлавіча, а пецярбуржцы ўбачаць экспазіцыю, прысвечаную Якубу Коласу», — дадала Наталля Ашымбаева.



Фота Кастуся Дробава.

*Дырэктары Літаратурна-мемарыяльных музеяў Коласа і Дастаеўскага Зінаіда Камароўская і Наталля Ашымбаева дамаўляюцца аб творчым супрацоўніцтве.*



*Жывыя кветкі для Якуба Коласа.*

На Вайсковых могілках, каб успомніць слыннага майстра мастацкай літаратуры, сабраліся яго родныя, у тым ліку малодшы сын паэта Міхась Міцкевіч, унукі і праўнукі, а таксама пісьменнікі, грамадскія дзеячы, навукоўцы, супрацоўнікі сталічных музеяў. Было сказана вельмі многа шчырых слоў, гучалі вершы-прысвячэнні і творы Коласа ў перакладзе — і нават на дагестанскую мову!

«Кожны год мы прыходзім на магілкі, якія даўно сталі для нас месцам паклонення, споведзі, ушанавання, узгадваем не толькі словы, але і справы тых вялікіх людзей, якія пакінулі нам фундамент сённяшняй дзяржаўнасці, нацыянальнай годнасці. Для мяне гэта: Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, троіца, якая ў адзінстве выражае формулу беларускасці», — упэўнены пісьменнік Анатоль Бутэвіч. На яго думку, дзень памяці — час, калі кожны павінен спытацца ў сябе, што ён зрабіў дзеля захавання памяці беларускіх класікаў. «Трэба яшчэ шмат чаго здзейсніць па вывучэнні біяграфій, папулярызацыі творчасці, перакладу на іншыя мовы, каб памяць стала сапраўды бессмяротнай», — падкрэсліў Анатоль Бутэвіч.

Цяжка знайсці беларуса, які не ведае пра выключны талент Якуба Коласа, яго адданасць свайму народу і Бацькаўшчыне. На абсягах сусветнага культурнага асяроддзя Пясняр таксама зрабіў вялікую справу: адкрыў нашую літаратуру далёка за межамі краіны. Да яго твораў звяртаюцца музыкі і рэжысёры, тэатральныя мэтры і мастакі, бо тое, што напісана класікам, актуальна заўсёды.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Дайджэст

• На радзіме Рыгора Барадуліна, ва Ушачах, завершыўся мастацкі пленэр, што ладзіла кіраўнік Культурна-адукацыйнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Райчонак. Першая выстаўка, якая падводзіла вынік пленэра, адбылася на вуліцы Ушач. Наступную плануецца правесці ў Чырвоным касцёле ў Мінску. На апошняй выстаўцы таксама і тыя работы, што захоўваліся на лецішчы Рыгора Барадуліна. Як памяць аб праекце на падворку хаты паэта застанецца невялікая дубовая алея. Таксама прагучала прапанова стварыць ува Ушачах музей Рыгора Барадуліна.

• Новая версія экранізацыі «Вайны і міра» Льва Талстога ўжо рэалізуецца сумеснымі намаганнямі BBC і *Weinstein Company*, якія плануюць паказаць серыял паводле славутай эпапеі гэтай зімой у Вялікабрытаніі. Не так даўно ў сеціве з'явіліся кадры са здымак, дзе Лілі Джэймс, вядомая як найшоўшая Папялушка, з'явілася ў вобразе Наташы Ростовай. Многія дэталі здымачнага працэсу замоўчваюцца, аднак ужо вядома, што Андрэя Балконскага грае Джэймс Нортан. Пол Дано пераўвасобіцца ў П'ера Бязухава. Няпростая справа экранізацыі рускай класікі ляжыць на плячах Тома Харпера, аўтар сцэнарыя — Эндру Дэвіс, які стаў шырока вядомы ў свеце дзякуючы працы з творамі Джэйн Осцін, Чарльза Дзікенса, Уільяма Тэкерэя і Барыса Пастарнака. Дакладная дата прэм'еры серыяла пакуль невядомая.

• Прыхільнікі творчасці Дж. Р. Р. Толкіна ўсцешаны: велічны горад Мінас Цірыт з фэнтэзійнага свету пісьменніка з'явіцца ў свеце рэальным. Копію горада — варта нагадаць, што ён вялізны, — плануецца ўзвесці ў натуральную велічыню ў Вялікабрытаніі. Для рэалізацыі амбіцыйнага праекта будзе выкарыстаны макет, які гледачы бачылі ў апошняй экранізацыі «Уладара пярсцёнкаў». Па падліках аднаго з аўтараў ідэі Джонатана Уілсана, будаўніцтва абыдзецца ў два мільярды фунтаў стэрлінгаў. Ён заўважыў: «Мы створым не толькі адну з самых дзіўных турыстычных славутасцяў на планеце, але і ўнікальнае месца, дзе можна жыць і працаваць». Калі атрымаецца распачаць будаўніцтва ў канцы 2016 года, першыя турысты змогуць азнаёміцца з найноўшай славутасцю Вялікабрытаніі ўжо ў 2023-м. Частка памяшканняў у горадзе будзе жылая, астатнія плануецца спраектаваць пад офісы.

• 29 жніўня ў «булгакаўскім доме» адбудзецца традыцыйнае свята. Вуліца Вялікая Садовая карыстаецца вялікай папулярнасцю. Вось ужо які год сюды з'язджаюцца прыхільнікі творчасці Міхаіла Булгакава. І менавіта ў апошнюю суботу лета, гэтым разам — 29 жніўня, пройдзе «Дзень здзяйснення жаданняў», якому ўжо больш за дзесяць гадоў. З'явіўся ён выпадкова: людзі, верачы ў магічную сілу месца, а таксама ў вялікія думкі М. Булгакава, у год адкрыцця «булгакаўскага дома» пачалі пакідаць тут цыдулкі. З часам колькасць напісаных жаданняў павялічвалася. Кожны год напрыканцы лета цыдулкі з жаданнямі змяшчаюць у шары і адпускаюць у неба. Арганізуецца таксама тэатралізаваная пастаноўка. Многія з тых, хто прысутнічаў на свяце, распавядалі, што іх мары спраўдзіліся.

## Прынятыя ў СПБ



**Аляксандр Мікалаевіч БЕЛІК**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 1 студзеня 1965 г. ў г. Луганску (Украіна). Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Працаваў выкладчыкам у Луганскім тэхнікуме сельскай гаспадаркі, настаўнічаў на Луганшчыне. Цяпер — агент па аперацыях з нерухомай маёмасцю. Аўтар 5 зборнікаў паэзіі і прозы. Піша на рускай і ўкраінскай мовах. Жыве ў Гомелі.



**Уладзімір Міхайлавіч РУНЦЭВІЧ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 28 лютага 1953 г. ў вёсцы Дайнава Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Салігорскі горна-хімічны тэхнікум. Пасля вярнуўся на малую радзіму, дзе працаваў на льнозаводзе. Пенсіянер. Суаўтар калектыўных зборнікаў. Аўтар зборнікаў паэзіі «Голас чалавека на зямлі» (1997), «Птушкі дзяцінства» (2006), «Шчасце. Шчасцейка» (2009), «Эрас» (2014).

Шчучын-2015

# Павандруем па сталіцы Дня пісьменства



**Можа, хто і задумваецца, чаму менавіта Шчучын абраны сталіцай XXII Дня беларускага пісьменства, але толькі не шчучынцы. Ад продкаў ім застаўся бясцэнны скарб — духоўная спадчына Элізы Ажэшкі, якую хрысцілі ў Каменскім касцёле, і Алаізы Пашкевіч, што нарадзілася і пахаваная ў тутэйшых мясцінах, у Старым Двары, а цяпер застыла ў адметнай бронзавай скульптуры ля раённага Дома культуры. Наша Цётка, паэтка і палымяная змагарка за лепшы лёс свайго народа, за звонкае і ўпэўненае гучанне беларускага слова, стала роднай і блізкай кожнаму шчучынцу.**

*Шчучын чакае гасцей.*

Літаральна праз дарогу ад скульптуры Алаізы Пашкевіч — касцёл святой Тэрэзы, да якога прымкнуў калегіум манахаў-піяраў, якія, пачынаючы з XVIII ст., неслі асвету, вучылі дзяцей з небагатых сем'яў, запрашалі лепшых выкладчыкаў. З калегіумам звязаныя імёны такіх вядомых вучоных-даследчыкаў, як Ігнат Дамейка, Мацей Догель, Казімір Нарбут, Станіслаў Баніфацый Юндзіл. Апошні закладваў па ўсёй Еўропе небывалыя па сваёй прыгажосці батанічныя сады, а ў Шчучыне — адзін з першых. І сёння можна адшукаць у горадзе зялёныя рарытэты, прынамсі, 250-гадовы дуб.

Шчучынцы любяць і паважаюць сваю гісторыю. Трэба бачыць, як запальваюцца іх вочы, калі размова заходзіць пра рэстаўрацыю палаца князёў Друцкіх-Любецкіх. Урачыстае адкрыццё назначана на 6 верасня — Дзень беларускага пісьменства! Тут будзе цэнтр творчасці дзяцей і моладзі. Над складанымі элементамі дэкору працуюць мінскія рэстаўратары. Адноўленыя ляпніна, разьба па дрэве, кафля, паркет надаюць інтэр'еру раскошу і веліч.

Давайце разам павандруем па вуліцах Шчучына, які актыўна рыхтуецца сустракаць гасцей. Ужо заканчваецца рэканструкцыя цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Цёткі. Гарадское возера апранаецца ў новую набярэжную. Арыгінальны Дом культуры, узведзены напрыканцы 1980-х па індывідуальным праекце, цяпер істотна аднаўляе інтэр'ер, а былы кінатэатр «Беларусь» трансфармуецца ў сучасны маладзёжны цэнтр, дзе з'явіцца кіназала 3D больш як на 110 месцаў, дзіцячы забаўляльны комплекс, кафэ, танцзала, студыя для правядзення інтэлектуальных гульняў і інш. Да Дня беларускага пісьменства завершацца знешнія работы на фасадзе і добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі.

Рамонт правялі ва ўсіх трох школах горада і гімназіі, завяршаецца рэканструкцыя стадыёна «Алімп». Кафэ і рэстаран, будынкі якіх ужо вызваліліся з палону рыштаванняў, распрацавалі арыгінальнае меню. Кавярня-галерэя «Стары горад», гаспадыня якой, між іншым, траюрадная пляменніца Якуба Коласа, запрашае не толькі смачна папалуднаваць і прыемна правесці вечар, але і радуе аматараў прыгожага выстаўкамі мастакоў, фатографаў, майстроў. Супрацоўнікі гасцініц таксама падрыхтаваліся да прыёму гасцей. Усім у сталіцы беларускага пісьменства будзе цікава і ўтульна!

**Таццяна СТУПАКЕВІЧ,**
**фота аўтара**



# Да «Блакітнай крыніцы»…

Штогод 14 жніўня на тэрыторыі Слаўгарадскага раёна, у вёсцы Кліны, ля помніка прыроды рэспубліканскага значэння «Блакітная крыніца», праводзіцца свята «Макавей».

Гісторыя «Блакітнай крыніцы» пачынаецца з 998 года, калі тут хрысцілі мясцовае племя радзімічаў. З таго часу ўжо больш як тысячу год праводзіцца асвячэнне вод. Народнае свята «Макавей», вядомае як мядовы Спас, звязана з ушанаваннем Жыватворнага Крыжа Гасподня, Божай Маці і святых мучанікаў сямі братоў Макавеў. Традыцыя паломніцтва і пакланення «Блакітнай крыніцы» ў 2012 годзе ўнесеная ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Сёлета на свята прыехалі паломнікі з Расіі, Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай абласцей, каб прайсці хрэсным ходам вакол крыніцы, пастаяць на святочнай службе, паглядзець на абрад хрышчэння. Шматлікія наведвальнікі свята Спаса, а іх з кожным годам становіцца ўсё больш, асвячаюць мёд і акунаюцца ў асвячоную ваду. Цікавы момант: тэмпература вады — 8 градусаў, крыніца не замярзае зімой, не награваецца летам і мае блакітнаватае адценне.

У межах свята прайшоў II рэгіянальны конкурс «Спас — усяму час» сярод фальклорных гуртоў і ансамбляў народнай песні, які становіцца ўжо добрай традыцыяй. Уросхап ішлі вырабы майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Ганна ТУЗЯНКОВА,**
**фота аўтара**

# Мядовы фальварак у доме Ваньковічаў

На падворку дома-музея роду Ваньковічаў адбыўся фэст «Мядовы фальварак». Мерапрыемства ладзіла супольнасць пчаляроў «Свет пчол» пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Пчалаводы з усёй краіны прыехалі ў сталіцу падзяліцца сваім досведам і новым ураджаем. На падворку дома Ваньковічаў можна было пабачыць мёд розных колераў і ў розных праявах: не толькі ў якасці карыснага прадукту спажывання, але і як матэрыял для сувеніраў, свечак, скульптур. На свяце адбывалася дэгустацыя і продаж мёду, мядовых напояў, майстар-класы ад вопытных пчалаводаў, праводзіліся конкурсы для дзяцей і дарослых (за лепшы малюнак, букет кветак, верш ці касцюм пераможца атрымліваў салодкі падарунак).

Гасцей фэсту сустракалі музычныя фальклорныя калектывы, а саюз майстроў арганізаваў цудоўную хэнд-мэйд-выстаўку з мноствам адмысловых сувеніраў і падарункаў ад народных умельцаў. Жанікоў і нявест, якія ў гэты дзень завіталі на святочны падворак, чакаў сюрпрыз — «мядовая» дысконтная картка і салодкі пачастунак. Гэта салодкае мядовае мерапрыемства штогод праходзіла ў мастацкім музеі, але сёлета, калі рэстаўрацыя музея Ваньковічаў амаль завяршылася, свята вырашылі перанесці ў адзін з самых маляўнічых куткоў Мінска. Кожны мінак мог зайсці і пакаштаваць сапраўдны натуральны беларускі мёд.



*Сімвалічнае ўвасабленне мядовага фэсту.*

**Дар'я ЛАТЫШАВА,**
**фота аўтара**

# Падарунак ад пісьменніка

Клімавіцкая зямля багатая на творчыя таленты. Сярод славутых землякоў — паэт, перакладчык Іван Бурсаў. Многія яшчэ з дзяцінства памятаюць яго кнігі «Дзевяноста пяць вожыкаў», «Сорак сарок», «Жабка з клункам».

Іван Цярэнцьевіч рана пакінуў Клімаўшчыну. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў на Чалябінскім металургічным заводзе, на Мінскім трактарным. Адначасова вучыўся ў школе рабочай моладзі і наведваў літаратурнае аб'яднанне пры газеце «Знамя юности». Скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. Быў рэдактарам аддзела прозы ў часопісе «Нёман». У 1965 г. пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Маскву і стаў працаваць у выдавецтве «Молодая гвардия».

Як паэт Іван Бурсаў заявіў пра сябе ў 1953 годзе. Выдаў шэраг паэтычных і празаічных зборнікаў, кніг вершаў і казак для дзяцей — і цяпер актыўна працуе на літаратурнай ніве.

Супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі наладзілі сувязь з таленавітым земляком. Іван Цярэнцьевіч даслаў у кніжніцу бандэроль з трыма зборнікамі сваіх казак: «Лятучая карова», «Купальскі скарб», «Тры вязкі па тры казкі» і літаратурна-навуковы штогоднік «Скарыніч» з успамінамі. Усе кнігі — з аўтографамі аўтара. Каштоўным падарункам сталі фатаграфіі Івана Бурсава, на якіх ён разам з Уладзімірам Караткевічам, Анатолем Грачанікавым, Еўдакіяй Лось, Рыгорам Барадуліным, Яўгеніяй Янішчыц, Валянцінам Лукшам і інш.

Кніжніца атрымала і іншыя падарункі ад пісьменніка: выданні з асабістай бібліятэкі, кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, творы сучасных пісьменнікаў. У адной з апошніх пасылак — тры нумары часопіса «Дружба народов», у кожным з якіх прадстаўленыя матэрыялы Івана Бурсава пра Беларусь.

**Таццяна ДАМЕНІКАН**

Змітрок МАРОЗАЎ



## Спявак

*Крычыць на плоце певень безгалосы,*
*Рыпіць на дубе стагадовы крук,*
*Ды ёсць адзін саліст на ўсе нябёсы —*
*Не салавей,*
*Не кнігаўка...*
*Жаўрук!*
*Багата праспявана, перажыта.*
*І ўсё ж сабе хачу я пажадаць:*
*Як той жаўрук, упасці з неба ў жыта —*
*І жытам стаць.*

***

*Век жыцця на гарбе,*
*Голас бацькі здалёку:*
*«Трэба помніць сябе —*
*Да апошняга кроку».*

*Голас маці звініць,*
*Як жывая крыніца:*
*«...Каб сябе не забыць,*
*Між людзей не згубіцца».*

***

*Язбы. Дзядзькоў магілы.*
*У полі дождж і золь...*
*Хапіла б толькі сілы*
*Падняць вялікі боль.*
*Сагрэць яго дыханнем*
*Бяссоннага радка —*
*І выпусціць пад ранне,*
*Бы з клеткі жаўрука.*

## Мастак

*Мастак натхнёнаю рукою*
*Пейзаж вясновы маляваў...*
*Крыляглі чайкі над вадою.*
*Я быў тваім, а ты маёю,*
*Кахала ты і я кахаў.*
*Мільгнула лета залатое,*
*Аднекуль золкі дождж прыгнаў...*
*Калі развітваўся з табою,*
*Мастак халоднаю рукою*
*Пейзаж зімовы маляваў.*

***

*Слова — хлеб і слова — камень,*
*Слова — нож і слова — мёд,*
*Слова цёплае вякамі,*
*Слова золкае, што лёд.*
*Слова можа ўвекавечыць*
*І забыць гады твае...*
*Слоў багата чалавечых.*
*Шчырых слоў нам не стае.*

## Зачараванасць

*Свеціць ветах над ліпай мядовай,*
*Залівае абсяг белізной.*
*І дасюль неспазнаныя словы*
*Напаўняюць душу цеплынёй.*
*Чую ціхі напеў перапёлкі,*
*Перазвоны срабрыстыя рос.*
*І буйныя, як яблыкі, зоркі*
*Абсыпаюцца ў жыта з нябёс.*
*Мы з табой ні пра што не гамонім,*
*Счараваныя ліўнем свята...*
*На тваёй чарадзейнай далоні*
*Кветка-папараць зацвіла.*

## Крыж

*Калі мяне на шлях Галгофскі*
*Анёлкі Д'ябла павядуць,*
*Лісцём усхліпне клён язбоўскі,*
*Бярозы роспачна ўздыхнуць,*
*Трава прашэпча: «Да сустрэчы*
*У невядомасці зямной...»*
*І толькі ласкі чалавечай*
*Я не адчую за спіной.*

## Радавод

*Здзічэлы сад і агарод,*
*Сівы ад лебяды...*
*Не чалавек — сялянскі род*
*Сышоў адсюль...*

*Куды?*
*У гарады!*
*І на клады...*
*Куды яшчэ?*
*Туды,*
*Дзе прашчур згорблены, руды*
*Збірае жалуды.*

***

*Стамлёны пошукамі веры,*
*Стары з душою маладой,*
*Сыду аднойчы да шумераў,*
*З агнём зліюся і вадой.*
*Адчую, як расце карэнне,*
*Як спеюць росы ў збажыне...*
*І сотні новых пакаленняў,*
*Як стрэлы, пройдуць праз мяне.*
*І будзе лад у кожнай хаце,*
*І кожны зробіцца чысцей...*
*Аднойчы з крыкам юнай маці*
*Вярнуся зноў я да людзей.*

***

*Пераводзіць сабака старога*
*Праз дарогу да крамы.*
*Нябога*
*Ледзь трымае ў руцэ павадок...*
*Я таксама слабею на зрок:*
*Як знайсці мне той сад вечаровы,*
*Дзе да рання чароўныя словы*
*Дыктаваў мне салоўка ў радок?*

***

*Калі мяне адрыне свет жывых,*
*Як нешта непатрэбнае, пустое,*
*Хай калыханкі матчынай травы*
*Ніколі не змаўкаюць нада мною.*
*Мо праз век цікаўнае дзіця,*
*Наведаўшы пагост забыты гэты,*
*Пачуе раптам голас з небыцця*
*І свету назаве імя паэта.*

---

Аляксандр КЕРДАН



Расійскі паэт і празаік. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў г. Коркіна Чалябінскай вобласці. Член Саюза пісьменнікаў Расіі, сакратар праўлення СПР. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій. Аўтар 53 кніг паэзіі і прозы. Творы перакладаліся на англійскую, нямецкую, італьянскую, хантыйскую, якуцкую, комі, азербайджанскую і башкірскую мовы.

**Іна ФРАЛОВА**

***

*Са дня, калі прыйшла па маму смерць,*
*Шчыміць, не зажывае ў сэрцы рана...*
*Прысніласа — услед хачу ляцець,*
*А мне яна гаворыць строга: — Рана.*

*Напэўна, мама, праўду кажаш ты —*
*Не адшукаць да часу горняй брамы.*
*Шлях праз зямное — вузкі і круты.*
*Так нестае тваіх малітваў, мама...*

***

*Ажыла начная цішыня*
*Перад днём Хрыстовага ўзнясення —*
*Бэзавае шэсце, як збавенне,*
*Гарадская зладзіла вясна.*

*Гудам пераможным ад сукавецяў*
*Наталіўся хуткакрылы вецер*
*Ды шуміць ля нашага акна.*

*І душа, цнатліва-срэбнай гронкай,*
*Сілай перапоўнілася звонкай*
*І ў скразных нябёсах зацвіла!*

***

*Не па нутры прыслоўі для мужчын...*
*Не дабаўляю да «кахаю» «вельмі».*
*Тым больш што месяц жоўтым вокам шэльміць*
*За вокнамі сінеючы сацін.*

*Ты да нацятай цішы не раўнуй,*
*Калі цябе я моўчкі абдымаю.*
*Усе прыслоўі, што пасля «кахаю»,*
*У пацалунках, любая, вярну.*

## Сонцазварот

*Шукаеш славы, грошай, ўлады,*
*Жывеш у вечнай барацьбе...*
*А як астылі жарсці, звады,*
*Бы адкрываецца табе:*
*Сэнс усяго — любоў і вера,*
*Жыццё канчаецца не тут,*
*І існаму адна ёсць мера —*
*Ціхмяна свой прыняць прысуд.*

***

*Кажуць мне, што краіну, якой я прыносіў прысягу,*
*Перамог іншаземец, што ласы да ўлад і пасад.*
*І калі хоць касцьмі я насуперак ворагу лягу —*
*Ад навалы трыклятай пазбаўлю Расію наўрад.*

*Я не веру бядзе, што звалілася ўраз, беспрычынна,*
*І не веру я ў лёс, што гатовы Расію стаптаць...*
*Так, я лягу касцьмі, як салдату мне гэта па чыне,*
*Каб ад горкай юдолі Айчыну сваю ўратаваць.*

*Я такі не адзін. На вялікай прасторы нямала*
*Патрыётаў-сыноў, каму гонар яшчэ дарагі —*
*Ад вулканаў Камчаткі да соснаў дзяржаўных Урала.*
*Нам вяртаўся не раз рускі Крэмль у няроўным баі.*

*Цераз смуты любыя, бывала,*
*і ў цяжкай знямозе*
*Паднімаліся з бруду, хаця і не лезлі ў князі.*
*Столькі слёз і крыві ў кожнай нашай святой перамозе,*
*Што нам нельга не верыць у заўтра вялікай Русі.*

*Вернем маці імя, вернем славу магутнай Радзіме,*
*Застанецца нашчадкам, калі ўжо не будзе сабе.*
*Багародзіца крыламі нас ахінае сваімі*
*І для рускага сэрца прытулак заўсёды дае.*

**З рускай, пераклала Іна ФРАЛОВА**

---

Алёна ПАПКО



***

*Сярод сатканай белі лугавой*
*Чаромхавай, як злепак першамаю,*
*Я песняй прагучу табе зямной*
*І з нотамі апошнімі растаю.*

*Сярод палёў пясчаных і трывог,*
*Агортваючы стомай летняй спёкі,*
*Я пылам абдыму цябе дарог,*
*Няходжаных і што навідавоку.*

*Сярод святочных вопраткаў і дзён,*
*У чарзе людзей далёкай і няспыннай*
*Я незагойнай праўдаю тваёй*
*Гучаць спрадвеку буду*
*ў шуме ліўняў.*

***

*Наўсцяж расстання вузка і шырока*
*Адбеленыя веснічкі вясной*
*Той квеценню лагодна-белавокай,*
*Нібы маёй надзеяй і журбой.*

*Мы ж мудрыя зусім не па ўзросце.*
*Як лёгка на давер усё прымаць!*
*І высцілаць праталінкі бяростай,*
*І мяккім крокам далей шыбаваць.*

*Вучыцца роднасць берагчы ад звадаў,*
*Што незаўважна ў сэрцах пралягла.*
*Дзе родны і чужы нам будзе рады,*
*Дзе вочы не сляза.*

*Дзе подых неўтаймоўнай навальніцы,*
*Змахне пялёсткі вішань на далонь.*
*Мне ж хочацца калі і не прысніцца,*
*Дык быць*
*са ста тваіх прычын —*
*адной.*

***

*Не ўшчуваю таго, што забыта,*
*І ў пазыку гадоў не бяру.*
*Поле татава з сонечным жытам*
*Я няйначай як лёс благаслаўлю.*
*Каласок да зямлі, як да маці,*
*Сэрцам вытканна песня лугоў.*
*Загасіліся будні у хаце,*
*Загасіўся палын вечароў.*

*Па прыкметах надвор'е чытаю,*
*Па павер'ях народных жыву.*
*І няхай не цябе благаслаўляю,*
*Не цябе ад дажджоў берагу.*

***

*Мой белы дзень,*
*дзе сонная затока*
*Гарлачыкі люляе на вадзе.*
*І Ясельда цячэ наўкол шырока,*
*І лёс чытае неба па руцэ.*

*Мой белы дзень,*
*дзе стрэчныя залевы*
*Згубіліся напрыканцы Грамніц,*
*Дзе ў шахматах фігурка каралевы,*
*Непераможна на цябе глядзіць.*

*Дзе спазніліся*
*на дробязі-хвіліны,*
*У нецярпенні рушыць новы шлях.*
*Маё каханне — колкія ажыны,*
*Тваё... Ці будзе ў ім працяг?*

Фота Касцуся Дробава.

## Дэбют

## Святлана КУРГАНАВА

# У горадзе начнога туману

Нарадзілася у г. Магілёве. Скончыла магілёўскую СШ № 37. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. З прозай у «ЛіМе» выступае ўпершыню.



На вуліцы дождж. На ручку дзвярэй апускаецца карычневая пальчатка. Дзверы адчыняюцца. Званок не надта гучны. Кроплі, як маленькія дроцікі, залятаюць з вулічнага туману ў памяшканне.

— Спадар, зачыняйце хутчэй, — з усмешкай кажа немаладая жанчына з падносам у руках. — Даўно не заходзіў. Дзе быў? Распавядзеш? Ці гэта мужчынскія справы? — Адказ ужо павінен ляцець у спіну. Як звычайна. Паверненца — абавязкова пральле каву. Пасля доўгага расстання вечна ўсё валіцца з рук. А ў гаспадыні ўсё павінна быць ідэальна.

— Сама ж і сказала. І не трэба сцвярджаць, што мужчынскія справы цябе не датычаць! — мужчына кіўком паказаў на лесвіцу, якая вяла ў рабочы кабінет. — Для мяне будзе столік і кубак кавы з перцам?

— Вядома, Святлан. Праходзь. Твой любімы вольны. І я памятаю, што ты не прызнаеш маленькія, «жаночыя», кубачкі, можаш не нагадваць.

Мужчына здымае каптур плашча. Валасы намакаюць нават так! Дзіўна, што ў такое надвор'е, калі ў кавярні не павінна быць ніводнага вольнага месца, у яго распараджэнні цэлы столік. Ды яшчэ ў такім ладным месцы — у куце каля акна. Хаця... Не, не цэлы. Эда, хітрая шэльма!

— Ну што, вось і ўбачыліся. Так бы ты дайшоў да мяне добра, калі б праз месяц.

— Нашто ж так...

— Так бы і было, — павучальны тон мужчыны за столікам зусім не вязаўся з іранічнай усмешкай. Ён задуменна паправіў сівую пасму ў медных валасах і зноў паглядзеў на старога вучня.

Як гэта знаёма! Святлан, які побач з замацярэлым Ярынам глядзеўся хлапчуком, спытаў:

— Што, старасць падкрадаецца, настаўнік?

— Нічога падобнага! Усяго адна пасма сівая! Ды я яшчэ зусім хлапчук! — На гэтых словах настаўніка твар маладога чалавека змяніўся. Цёплая ўсмешка стала нейкай ненатуральнай.

— Што-небудзь здарылася?

— Так... Толькі не цяпер, добра? А... Толькі адно пытанне. Вы б... Вы б хацелі ніколі не сталець?

Падышла ўсмешлівая дзяўчынка з двума кубкамі і булачкамі. Над столікам павісла цішыня, да якой, здавалася, можна было не толькі дакрануцца. Ад яе было можна і адкусіць кавалачак, каб заесці перачна-вострую каву.

— Ты ж памятаеш Гелену? Тую, якая піша прарочыя вершы? — Святлан упэўнена кіўнуў: яе вершы слухалі ўсе, увесь горад, яе немагчыма было не ведаць. — Часам я б хацеў, як і яна, навечна застацца дзіцем. — Погляд Ярына спыніўся на шкле, па якім дождж выстукваў прыемны матыў. — Колькі ёй? Трыццаць? Трыццаць пяць? Не памятаю. Не памятаю, таму што яна не змяняецца. Яна і да гэтага часу застаецца той маленькай наіўнай дзяўчынкай. Але я не змог так. Не змог бы перакласці адказнасць за свае ўчынкі на іншых. Не знікла б нікуды гэта пачуццё адказнасці. Не атрымалася б так адкрыта і наіўна, як Гелена, глядзець на свет. Жыццё ўсю наіўнасць ужо выбіла.

— Выбіла. І з мяне цяпер выбіла. Не, я не хацеў бы адкруціць усё назад на пару гадоў. Не хачу заставацца тым хлапчуком, які не ведаў, што такое адказнасць за іншых. Я б хацеў пераматаць жыццё іншых.

— Што здарылася, пакуль мы не бачыліся?

— Шмат чаго. Як-небудзь потым распавяду абавязкова. А я заўсёды хацеў, каб адна дзяўчына назаўжды засталася дзіцем, каб яна ніколі не сталела. Каб яна не ведала, што такое віна за нястрыманае слова, за страту чужога жыцця.

— Не жадай такога для іншых. Ніколі. Такія людзі занадта ўражлівыя, занадта далікатныя.

— А Гелена?

— Пра яе ўсё жыццё будуць клапаціцца, прымаць за яе рашэнні. Апекаваць, песціць, агароджваць ад усяго непрывабнага свету. А яна будзе проста пісаць вершы. Яна ўсё жыццё пражыве як аранжарэйная кветка. Застанецца чалавекам, які ніколі не пасталее. Шэра не змагла б так жыць. Не знаходзіш? Ты ж казаў пра яе? — Ярын акуратна паставіў на стол пусты кубак. На донцы засталася толькі кававая гушча.

Да століка не спяшаючыся падышла Эда. Яна акінула позіркам пагружаных у думкі мужчын і прысела за столік.

У вачах Святлана загарэўся той самы агеньчык, які заўсёды з'яўляўся ў такія моманты. Варажыць на кававай гушчы ў горадзе ўмела толькі Эда. Панна заўсёды беспамылкова ведала, што сказаць і параіць, толькі зазірнуўшы ў кубак.

Калісьці даўно ён не звяртаў увагі на працягнутую руку, аднекваўся і з напускным гонарам заяўляў, што выйшаў з таго ўзросту, калі цікавяцца такімі рэчамі. А цяпер... Знікла тая штучнасць.

— Ведаеце, сёння кава за кошт установы. Даўно не бачыліся. Занадта даўно... Зараз прынясу яшчэ два кубкі. Заставайцеся да зачынення. Потым распаведзяце... — варажбітка абарвала сябе на паўслове і паднялася з крэсла.

Два ўдзячныя кіўкі. Каторы раз празвінеў званок у дзверы. Пах духмянай кавы вызірнуў на вуліцу, да серабрыста-шэрага туману. Белы кісель працягваў разганяць ледзянымі іголкамі мінакоў. За сталом каля акна сядзелі два мужчыны, якія ўслухоўваліся ў мелодыю, што ўсё наігрываў на акне дождж, — ціхае «кап-кап-кап».

***

— Хлопцы, хадзем, — сказала Эда, калі ў зале за столікамі засталіся толькі два чалавекі. Павольна рухалася са швабрай дзяўчынка. Яна прыгорбілася і час ад часу церла лоб. Разам з апошнім наведвальнікам сабралася і зляцела ўся весялосць. — Мальва, мала вытрымаць засталося, пацярпі. Заўтра прыедзе зменшчыца, будзеце працаваць удзвюх.

— Дзякуй. Дзеля таго каб працаваць у вас, можна зведаць многае. У вас збіраецца толькі прыстойная публіка. Гэта не карчма, — маленькая фігурка з русымі валасамі выпрасталася і ўпэўнена паглядзела ў вочы варажбіткі. Цяпер яе нельга было назваць дзяўчынкай. Ніяк. Маладая жанчына. Дарослая, моцная асоба. Метамарфоза адбылася за долі секунды. Хуткі погляд на мужчын, якія трохі здзіўлена павярнуліся ў яе бок, — на твар зноў напаўзла ўсмешка маленькай, наіўнай, трохі дурнаватай дзяўчынкі.

Эда мякка ўсміхнулася і кіўнула гасцям: праходзьце, маўляў. Нага ў мяккім замшавым чаравіку стала на першую прыступку. Амаль нячутна рыпнулі крэслы. Дождж нервова барабаніў па даху. Здавалася, што ён зараз закрычыць: «Ратуйце! Пусціце мяне! Хутчэй!»

Мужчынская далонь мякка легла на парэнчы, гладкія, як змяіная скура. Яны таксама выслізгваюць з-пад пальцаў, калі прыходзіш сюды ворагам. Правальваецца дзявятая (або адзінаццатая?) прыступка — і ты ляціш уніз. Цяпер разумееш, што нічога не нашкодзіць. Толькі на шыі, пад цёмна-рудым хвастом, дасюль часам ные шнар дваццацігадовай даўніны. Яе кавярня — яе дом, яе крэпасць, яе гняздо. Яна нічога не пакідала беспакараным. Яна помсціць — можа, не адразу, але заўсёды.

Святлан пільным позіркам агледзеў памяшканне. Кабінет за год крышачку змяніўся. На сцяне з'явілася некалькі новых бразготак, на стале — навамодная чарніліца, у шафе — пара новых кніг. І, хутчэй за ўсё, новыя схованкі. Жанчыны з поўдня ніколі не былі простыя і наіўныя. Наіўным няма чаго рабіць у пустыні. Такія, як яна, тут маглі працаваць нароўні з мужчынамі, не саступаючы практычна ні ў чым. Як, зрэшты, і «туманныя». І калі нічога не змянілася, то цяпер...

— Вы ж захапілі кубкі? — мужчыны з выглядам вялікіх прарокаў пераглянуліся. Як усё ж такі добра, што ў свеце ёсць штосьці настолькі стабільнае, пастаяннае і нязменнае, як гняздо Эды. Такая выспа спакою, дзе, здаецца, ты заўсёды ведаеш, што ідзе далей. Усё новае ўплятаецца так натуральна, што ўзнікае адчуванне: усё павінна быць так і ніяк інакш.

— Вядома, — Святлан зграбна апусціўся ў крэсла і паставіў кубак на стол. — Памятаеш, як варажыла мне ўпершыню? Перад маёй першай сур'ёзнай вылазкай на паляванне ў тумане? Я тады табе не падзякаваў. А тая парада пакінула мне правую руку. Цяпер і шнар амаль не бачны, — хлопец на долі секунды замоўк, але наступная фраза, думка, якая быццам адкусвае па кавалачках душу, усё ж вырвалася. — Калі б ты апошнім разам была побач з намі... Можа, тая дзяўчынка і не памерла б на руках Шэры...

Ярын, не паварочваючыся да пары людзей за сталом, уздыхнуў. Усё ж страціў аднаго. Яны, такія маладыя, ужо ведаюць, што такое страта «сваіх», туманных. Таленавітых, тых, да каго гэты сталёвы кісель сам цячэ ў рукі, не так ужо і шмат. У вялікіх гарадах яны ведаюць адзін аднаго не толькі ў твар, але і па імёнах, доме, вазоне на падаконніку, колеры вачэй. Тут без розніцы, якое ў цябе паходжанне. Але тых, хто з ніжэйшага, таксама трэба навучаць. У іх няма радавога маёнтка, хатніх туманных захавальнікаў. У іх ёсць толькі такія маладыя настаўнікі, якія самі не так даўно, гадоў пяць таму, вылецелі ў свет. І дзве маладыя птушкі ўжо зразумелі, што значыць зламаць крылы аб сцяну адказнасці.

А варажбітка ўжо некалькі хвілін круціла ў руках кубкі. Спачатку ўзяла ў рукі той, што прынёс старэйшы мужчына. Бровы жанчыны з кожнай секундай уздымаліся ўсё вышэй. Святлан задуменна вывучаў твар Эды. А Эда вывучала кубак. Кубак працягваў здзіўляць. Урэшце, адставіўшы посуд, жанчына падняла хітры погляд на рудога, які застыў, як шкадлівы кот:

— Вось скажы, колькі табе гадоў, а? Шэсцьдзясят?

Ярын, якому на выгляд было складана даць больш за трыццаць тры — трыццаць пяць, падабраўся:

— Шэсцьдзясят два, — Эда падняла вочы да столі і ўздыхнула. Ну і што з таго, што туманныя жывуць даўжэй за простых людзей. Таму некалькі разоў за жыццё і пераязджаюць, каб не нерваваць суседзяў сваім даўгалеццем. Хоць сама без згрызот сумлення нервавала і збіралася працягваць у тым жа духу яшчэ гадоў семдзесят.

— А праблемы як у хлапчука! Увогуле, са сваімі любоўнымі справамі разбярэшся сам. Для вас, — жанчына махнула рукой за акном, дзе калыхалася штосьці мутна-белае, — розніца ва ўзросце не праблема. А цяпер ты, Святлан...

Малады чалавек паклаў локці на стол, пераплёў пальцы пад падбароддзем і ўважліва паглядзеў на Эду. Ён паспеў ужо ўзяць сябе ў рукі і трохі іранічна ўсміхаўся, быццам кажучы: «Вы нешта хацелі? Так, я вас слухаю, працягвайце, вы мне не перашкаджаеце». Гульня ў «глядзелкі» доўжылася пару хвілін. Хлопец адкінуў галаву на спінку крэсла, прыплюшчыў вочы і сказаў:

— Думаю, я гатовы гэта пачуць. Ненавіджу прадказанні, якія датычаць мяне, але я вытрымаю і гэтую рэалістычную жудасць у тваім выкананні. — Святлан усміхнуўся ў столь. Адчайны ашчэр падсвятлілі свечы ў кандэлябры на сцяне.

Варажбітка ўсміхнулася кутокамі вуснаў. Там усё не так ужо і страшна. Подзвігі ад яго не патрабуюцца, сусветнае панаванне таксама не пра яго. Што справіўся б, ніхто не спрачаецца, але калі не патрабуецца, то навошта. Усё, што трэба ад яго, — добра рабіць сваю працу. І трошкі — чужую. Яго чакае нядоўгая дарога, яго туманны горад і праца галавой. Эда правяла пальцам па абадку кубка, усміхнулася думкам.

— Ну што ж. Слухай, хлопец, слухай...

***

За акном працягнулася паласа світання. Яна абцякала дахі дамоў і падымалася над імі каронай.

Мастак за мальбертам правёў няроўную лінію. Яна трохі распрасталася зверху, паўтарыла заломы знізу. Яму час адпачываць. Далей світанак разгарыцца сам. А жыхары пакоя, у вокнах якога расплюхалася фарба... Ім даўно пара спаць. Толькі ўсю ноч яны прасядзелі ў крэслах перад камінам. Праз гадзіну збірацца ў дарогу. Але пакуль ёсць яшчэ гэтая гадзіна.

— Што ты пра гэта думаеш? — Ярына цікавілі словы Эды. І цяпер няма пра што хвалявацца. Пакуль можна адпачыць. Аб праблемах можна будзе ўспомніць пазней.

— Сёння яна нагадала мне шарлатанаў на кірмашы. Нічога канкрэтнага. Адзінае карыснае, што цяпер можна вылавіць з гэтых славесных карункаў: «Там ваша месца. Не ўздумайце збегаць з-за няўдач і болю», — малады чалавек адкінуўся на спінку крэсла і працягнуў, глядзячы проста на настаўніка. — Калі ты турбаваўся пра гэта, беспадстаўна. Мы працягнем навучаць маладых туманных і прыглядаць за імі. Так, адну маленькую дзяўчынку ў горадзе забіў псіх, які ненавідзіць непадобных да яго, да абывацеляў. Гэта не нагода кінуць сваю справу і не рабіць нічога, — Святлан глядзеў яму ў вочы. Настаўніку не павінна быць сорамна за сваіх птушанят. Яны зрабілі выбар. Яшчэ тады, калі Шэра рыдала ў яго на руках. Юнак перабіраў мокрыя валасы дзяўчыны, што схілілася яму ў плячо, і думаў: калі яна ўсё яшчэ той чалавек, якога ён ведаў шмат гадоў таму, то...

«А, дрэнь! У маім горадзе больш такога не здарыцца. Я зраблю ўсё, каб тут больш такога не было!»

Яна ўсё тая ж.

— Гэта не прычына. Думаеш, я не зразумеў? Ты так хутка вярнуўся. Цяпер ты едзеш дадому. Святлан, ты мусіў з'ехаць па справах, гэта былі не ўцёкі.

— Настаўнік! Ды гэта брыдка, калі цябе абвінавачваюць! — Светлавалосы мужчына ў крэсле з лютасцю, якую хаваў даўно, ударыў рукой па падлакотніку. — І кожны пытае: «Там жа яшчэ і дзяўчына была. А што, яна яшчэ не збегла, не?»

На растрапаных валасах гуляла світальнае сонца. Прамяні блыталіся ў светлых пасмах, ствараючы ілюзію сівых кучароў. А можа, яны і паспелі з'явіцца?.. Адна пасма казытала шыю. Гэта заўсёды так раздражняе. Толькі цяпер не хацелася адмахвацца. Не да яе.

Цяжка адчуваць асуджэнне з усіх бакоў. Хоць раней ты ніколі не звяртаў увагі на такія дробязі. Што да чужога меркавання? Але падчас паездкі... Апраўдвацца перад гэтымі людзьмі? Ніколі. Вось тут трэба сказаць менавіта гэтае слова: «Ніколі».

— Свят, я ведаю. Напэўна, праз гэта прайшлі ўсе настаўнікі. Думаю, можна закрыць тэму. Як лічыш? — Ярын узяў у рукі кубак. Мальве раніцай дрэнна спалася, і дзяўчына вырашыла прынесці ім гарбату.

Погляд затрымаўся на кубку. Святлан прымружыў вочы і звярнуўся да настаўніка.

— А хто яна такая? Ну, Мальва.

Ярын пакруціў у руках кубак, гледзячы на травінкі зялёнай гарбаты. Менавіта такую і трэба піць на світанні. Гарачая, гаркаватая, менавіта з такім водарам.

— Хіба ты не ведаеш Эду? Туманныя ў яе заўсёды могуць знайсці прытулак. І не толькі туманныя, як аказалася. Тут не карчма, як дзяўчына сказала сама. Ты атрымаеш не толькі працу, але і цяпло. Яе гняздо лечыць. Хіба яно не падлечыць зараз цябе? — Ярын павярнуўся да акна.

А малады мужчына быццам чытаў чужую думку: «І няўжо яно не вылечыла шмат гадоў таму мяне?..»

Святлан усміхнуўся і зрабіў глыток.

За акном разрасталася світанне.

# Юльян Пшыркоў: слова пра легенду

Выпускнік Ленінградскага інстытута філасофіі, літаратуры і гісторыі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ён прыклаў шмат намаганняў, каб сцвердзіць значнасць паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», вярнуць у гісторыю літаратуры імёны рэпрэсіраваных пісьменнікаў. Юльян Пшыркоў — асоба амаль легендарная для беларускага літаратуразнаўства.

Пра здзейсненні Юльяна Сяргеевіча распавядаюць аўтары кнігі «Дарыў святло сваёй душы людзям і Айчыне», якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская навука». У выданні сабраныя ўспаміны сваякоў, вучняў і колішніх супрацоўнікаў Ю. Пшыркова. Змешчаны тут і спіс літаратуры аб жыцці і творчасці навукоўца, пералік яго асноўных навуковых публікацый.

Калі набытак даследчыка застаецца актуальным для новых пакаленняў спецыялістаў, то кніга ўспамінаў пра яго таксама знойдзе зацікаўленага чытача. Навуковая манаграфія патрабуе доўгага, удумлівага знаёмства, таму магчымасць больш даведацца пра яе аўтара абавязкова прыдасца паслядоўнікам даследчыка.

Вольга і Юлія Дэконскія, Сяргей і Юльян Пшырковы згадваюць, якім быў вядомы навукоўца ў сямейным жыцці, вызначаюць галоўныя прынцыпы, якімі ён кіраваўся ў стасунках з іншымі людзьмі, у выхаванні дзяцей і ўнукаў. Ю. Пшыркоў як чалавек спагадлівы, адкрыты і таварыскі меў нямала сяброў, таму сваякі часта апісваюць сустрэчы з Якубам Коласам, Уладзімірам Дубоўкам, Уладзімірам Караткевічам, Алегам Лойкам... Шмат цёплых слоў прысвечана Ноне Іванаўне Пшырковай — настаўніцы Нясвіжскага педвучылішча, удзельніцы падполля, адданай жонцы Сяргея Юльянавіча. «Дняпроўскія вытокі» Тацццяны Пшырковай — біяграфічны нарыс, у якім цытуюцца запісы з дзённіка навукоўца, а таксама паштоўкі, адрасаваныя яму Я. Коласам.

> *Кніга магла б запачаткаваць серыю выданняў-успамінаў пра найбуйнейшых беларускіх філолагаў. Варта падрыхтаваць і грунтоўнае выданне па гісторыі беларускага літаратуразнаўства, дзе знайшлося б месца і цікавым фотаздымкам, і ўспамінам пра навукоўцаў — накшталт «Вялікай энцыклапедыі Вялікага тэатра Беларусі».*

Ва ўспамінах пра Ю. Пшыркова як даследчыка і выкладчыка часта акрэсліваецца агульная сітуацыя ў беларускай літаратуры і навуцы 1950 — 70-х гг. Сцяпан Лаўшук згадвае пра абвінавачванні супрацоўнікаў Інстытута ў нацыяналізме і антысавецтчыне, а Міхась Мушынскі распавядае пра барацьбу з цэнзурным ведамствам у час падрыхтоўкі Збораў твораў Я. Купалы і Я. Коласа. У такім кантэксце асноўная задача навуковай дзейнасці Ю. Пшыркова — «пакончыць назаўсёды з вульгарызатарскай фальсіфікацыяй гісторыі нашай літаратуры» — бачыцца як справа значная і рызыкоўная.




Цікава чытаць пра заўважаныя калегамі ды вучнямі адметныя рысы Ю. Пшыркова-даследчыка. Гэта і значная для выкладчыка здольнасць «раскрываць непаўторнасць творчасці розных пісьменнікаў», і неабходнае для літаратуразнаўцы «ўнутранае адчуванне патрэб часу, жывое пачуццё сучаснасці». Юльян Пшыркоў быў уважлівы да маладых літаратараў і навукоўцаў: запрашаў у аспірантуру, чытаў часопісныя навінкі, ацэньваў творы пачаткоўцаў. З захапленнем ставіўся да творчасці Уладзіміра Караткевіча (маладзейшага на 18 гадоў), падтрымліваў яго ў складаных абставінах. Сёння, калі прадстаўнікі старэйшага пакалення пераважна ставяцца да маладых аўтараў скептычна ці безуважна, цікаўнасць і зычлівасць Ю. Пшыркова падаюцца рысамі амаль унікальнымі.

З кнігі ўспамінаў можна таксама даведацца пра змест галоўных навуковых прац Юльяна Сяргееевіча, адмысловыя завядзёнкі ў Інстытуце літаратуры АН БССР ды будні вядомых літаратуразнаўцаў. Карысным будзе знаёмства з вартымі пераймання жыццёвымі падыходамі і даследчыцкімі методыкамі Ю. Пшыркова. Дзякуючы кнізе выдатна запамінаюцца галоўныя факты з біяграфіі навукоўца, бо расповеды пра іх паўтараюцца ў розных тэкстах. Для зборніка ўспамінаў такая праблема падаецца прадказальнай, хоць яе можна было б пазбегнуць, размеркаваўшы між аўтарамі асобныя тэмы.

Кніга «Дарыў святло сваёй душы людзям і Айчыне» магла б запачаткаваць серыю выданняў-успамінаў пра найбуйнейшых беларускіх філолагаў. Вядома, такі праект не можа быць разлічаны на шырокае кола чытачоў, таму ў адной кнізе можна было б сабраць успаміны пра некалькіх даследчыкаў, якія сябравалі між сабой, ці нават пра цэлую генерацыю навукоўцаў. Можна было б падрыхтаваць і грунтоўнае выданне па гісторыі беларускага літаратуразнаўства, дзе знайшлося б месца і цікавым фотаздымкам, і ўспамінам пра навукоўцаў — накшталт «Вялікай энцыклапедыі Вялікага тэатра Беларусі».

Многія дзеячы беларускай культуры, безумоўна, вартыя годнага ўшанавання памяці, і імя Юльяна Пшыркова толькі распачынае гэты вялікі шэраг.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Старонкі памяці беларускай літаратуры

**Часам бывае вельмі шкада, што нарадзіўся нашмат пазней за пісьменнікаў, якія ўжо даўно з'яўляюцца класікамі беларускай літаратуры. Пра многіх мы ведаем толькі з кароткіх старонак іх афіцыйных біяграфіі, якія не даюць поўнага і праўдзівага партрэта, а ў напісаных імі творах не заўсёды лірычны герой адпавядае асобе аўтара. Таму адзіным паратункам з'яўляюцца кнігі ўспамінаў людзей, якім пашчасціла жыць у адзін час з людзьмі такой велічыні, як Янка Купала ці Уладзімір Караткевіч. Падобных выданняў нямала можна знайсці ў бібліятэках, букіністычных крамах і нават інтэрнэце — трэба толькі зацікавіцца. Вашай увазе прапаноўваецца пяць самых значных і цікавых, як на мой погляд, зборнікаў успамінаў, з якіх можна пачаць больш блізкае знаёмства з любімымі аўтарамі.**

### «Голас вясны далёкай. Паўлюк Трус ва ўспамінах, лістах, артыкулах, вершах», 1994

Засталося не так шмат сведкаў ужо далёкага ад нас часу, у якім жыло і дзеіла нямала яркіх і таленавітых асоб, — перыяду 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя. Таму цяпер дарагая кожная старонка зборніка ўспамінаў пра Паўлюка Труса, які пакінуў глыбокі і светлы след у гісторыі беларускай літаратуры і сэрцах сучаснікаў. Пра славутага творцу ўспамінаюць не толькі родзічы паэта (вельмі кранальныя ўспаміны сястры Паўлюка Труса пра іх дзяцінства), але і не менш вядомыя асобы: Пятро Глебка, Максім Гарэцкі, Мікола Хведаровіч, Максім Лужанін.




Укладальнікі кнігі Ніна Ватацы і Яфім Садоўскі дапоўнілі яе лістамі паэта і яго сяброў, а таксама артыкуламі і вершамі, прысвечанымі яго памяці, што робіць выданне яшчэ больш прывабным для чытача.

### «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы», 1984

У адрозненне ад папярэдняй кнігі, зборнік мемуараў пра Максіма Гарэцкага вылучаецца большай дакументальнасцю і лаканічнасцю. Акрамя ўспамінаў людзей, якія асабіста ведалі класіка беларускай літаратуры, працавалі ці па розных жыццёвых абставінах сутыкаліся з ім у розныя гады яго жыцця, значнае месца ў кнізе займаюць біяграфічныя матэрыялы, лісты і літаратурна-крытычныя артыкулы Максіма Гарэцкага, а таксама бібліяграфічны спіс друкаваных твораў і артыкулаў даследчыкаў яго творчасці. Таму гэтая кніга не толькі цікавая, але і вельмі карысная, асабліва для студэнтаў філалагічных і літаратуразнаўчых кірункаў.

### «Такі ён быў. Успаміны пра Янку Купалу», 1975

Гэтая кніга прыцягвае сваёй супярэчлівасцю: з аднаго боку, выданне распавядае пра народнага паэта Беларусі, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча, які павінен паўставаць перад намі ў абліччы чалавека «ўлюбёнага ў светлую савецкую яву», але з іншага боку, калі чытаць кнігу без акуляраў «народжанага ў СССР», то вельмі цікава назіраць, як праз шалупінне афіцыёзу і партыйных указанняў усё ж такі прабіваецца сапраўдны партрэт паэта, закаханага ў свой беларускі, а не толькі савецкі край. Зборнік стракаціць вядомымі імёнамі не толькі айчынных, але і рускіх, украінскіх, літоўскіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, а таксама ўтрымлівае ўспаміны блізкіх сяброў і родных Янкі Купалы.

### Максім Лужанін. «Колас расказвае пра сябе», 1964

Кніга Максіма Лужаніна вылучаецца тым, што не з'яўляецца зборнікам успамінаў, — гэта асобны мастацкі твор асабліва жанру «аповесць-эсэ», у якім распавядаецца пра дзяцінства класіка, а таксама раскрываецца жыццёвы і творчы шлях паэта. Аўтар апісвае сустрэчы Якуба Коласа і Янкі Купалы, узнаўляе гісторыю стварэння паэм «Сымон-музыка» і «На шляхах волі». Аповед у творы ідзе ад першай асобы, што сапраўды ствapae ўражанне, нібыта ты слухаеш самога Якуба Коласа, які табе даверліва, па-сяброўску распавядае пра сябе.

### «Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду! Успаміны, інтэрв'ю, эсэ», 2005

У адной з найноўшых кніг успамінаў пра Уладзіміра Караткевіча ўкладальніца Галіна




Шаблінская сабрала пад адной вокладкай матэрыялы, якія ствараюць жывы вобраз выдатнага пісьменніка Беларусі XX стагоддзя. Праз успаміны сяброў, сваякоў, літаратараў, гісторыкаў, артыстаў, жывапісцаў, рэжысёраў, кампазітараў мы можам уявіць постаць сапраўднага творцы ва ўсёй яго філасофскай велічы і прыгажосці. Абаяльны, дасціпны, глыбокі эрудыт Валодзя Караткевіч — такім ён застанецца ў памяці нашчадкаў і ў гісторыі беларускай літаратуры не толькі дзякуючы сваім геніяльным творам, але і таленавіта складзеным кнігам успамінаў. Выданне належыць да дыхтоўнай серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», у якой апошнім часам з'явіліся таксама зборнікі ўспамінаў пра Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і Івана Шамякіна, укладзеныя іх роднымі і сябрамі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Жарсці над цёмнай вадой

Паэтычныя падборкі Ігара Канановіча заўжды чыталіся з цікавасцю. Адметная, схільная да афарыстычнасці мова, незвычайная вобразнасць — ці не можа ўсё гэта паслужыць літаратурнаму поспеху?.. Здзіўляла толькі, што сталы аўтар (маю на ўвазе творчасць, самому ж паэту — 32 гады) дасюль не мае кнігу. Дакладней, не меў. Сёлета Ігар Канановіч выдаў зборнік вершаў «Астэроід».

Ад гэтай «касмічнай» кнігі чакаліся ўжо не спробы паэзіі, як часта бывае з дэбютнымі зборнікамі, але сама паэзія. І збольшага чаканні апраўдаліся. Між тым гэта не замінае назваць «Астэроід» класічна дэбютнай кнігай. Як і належыць, у ёй маюцца прысвячэнні кумірам, пэўная доля прыпадабненняў, маладая палкасць і праз гэта — схільнасць да драматызацыі. Апошняе — самая яркая адметнасць зборніка. Зрэшты, чаго яшчэ чакаць ад «Астэроіда»?.. Сама назва намякае на «маштаб трагедыі».

Збольшага Ігар Канановіч паэт класічны. У нашых рэаліях гэта значыць «піша ў рыфму». А гэта, у сваю чаргу, азначае — рызыкуе паўтарыцца, падладзіцца пад форму, быць банальным. Аднак паэт удала абходзіць амаль усе перашкоды, і рыфма не прыцягвае да сябе залішняй увагі, працуе на твор у цэлым, і так званыя белыя швы па краі верша шукаць трэба адмыслова — яны незаўважныя.

Калі ў класічным вершы Ігар Канановіч пачуваецца вольна, то верлібр даецца яму не так ахвотна. Капрызлівы верлібр перадае думку суха, амаль празаічна, пазбаўляючы твор самое паэзіі, і часта ён ператвараюцца ў гульню, каламбур, жарт. Як выключэнне — лёгкі, яркі верш-імкненне, які літаральна ззяе, гучыць па-дзіцячы светла і таму так пранізліва:

*Шэпт захаплення*
*імкліва бяжыць па сметніку:*
*падскочыў да сонца*
*вясёлы,*
*адважны пакет!*

Калі б замест «вясёлы» і «адважны» паэт скарыстаў іншыя эпітэты, верлібр загінуў бы.

Вершы з раздзела «На арбіце тваёй», вершы пра каханне нецярплівае і часта трагічнае, варта чытаць у гневе, пасля чарговай сваркі з любай/любым ці не чытаць зусім: і ў каханні паэт

> *Менавіта вершы-маналогі — самыя сталыя, завершаныя, словам, самадастатковыя творы мастацтва. «Касінер», «Конунг», «Секундант», «Мір, падобны да раю...», «Уратаванне» — у кожным з іх трагічная гісторыя, якая не патрабуе клічнікаў і вялікіх літар. Талент да сюжэтных, драматычных вершаў сведчыць пра тое, што аўтар адолеў бы і паэму.*

Ігар Канановіч застаецца разбуральнікам. Ён папросту не прымае шчаслівы фінал: павінны быць слёзы, агонь, кроў, дэманічныя жарсці, — толькі так нарадзіцца верш, толькі так паэт можа быць шчаслівы. Аднак калі такіх вершаў многа, калі пакуты пераходзяць з твора ў твор, чытач не можа не задаць пытанне: колькі ж у іх праўды?.. Ці не залёгка аўтару даліся радкі?.. Выснова просіцца адна: захоплены пачуццямі, паэт не здолеў заваладаць словам — слова завалодала ім.

Інакшая карціна з вершамі першага раздзела «Мір, падобны да раю». Няхай чытача не падманвае аптымістычная назва: верш, які даў яе, раскрывае крохкі, нядоўгі мір як ілюзію, бо заўжды недзе побач вайна і заўжды недзе ў цёмных глыбінях стойваецца падлодка — сімвал вечнай небяспекі, трывогі, крохкасці міру — і свету. Верш, адзін з самых яркіх у зборніку, уяўляе з сябе маналог ад імя капітана падлодкі. Ён паўстае ледзьве не дэманічным вобразам, сімвалам вечнай пагрозы і ў пэўным сэнсе нават пятым вершнікам апакаліпсіса.

Якраз маналогі выглядаюць найбольш стала, завершана, словам, самадастатковымі творамі мастацтва. «Касінер», «Конунг», «Секундант», «Мір, падобны да раю...», «Уратаванне» — у кожным з іх трагічная гісторыя, якая не патрабуе лішніх клічнікаў (іх аўтар вельмі любіць) і вялікіх літар. Кожны з маналогаў чытаецца на двух узроўнях: літаральным, ад імя героя, і метафарычным, калі можна правесці паралель паміж рэчаіснасцю верша і нашай. Такі талент ствараць сюжэтныя, драматычныя творы сведчыць, што аўтар адолеў бы і паэму.

Зрэшты, і сярод маналогаў сустракаюцца творы рознага ўзроўню. Эмоцыі, якія захлёстваюць аўтара, замінаюць яму не толькі ў любоўнай лірыцы, але і ў прысвячэннях беларускім паэтам — Максіму Багдановічу, якога той называе ажно Святым, і Францішку Багушэвічу. Абодва вершы даволі шматслоўныя і абодва, па сутнасці, з'яўляюцца толькі падводкай — адзін да апошняй страфы:

*— Харон! — Чаго табе, сынок?*
*— Пракаціш мальца*
*на пароме?*
*...Туман спаўзае на радок,*
*Снуе пяро: «У белым доме...» —*




другі — да апошняга радка:

*«Паэт — цудоўны адвакат...».*

Праз сваю эмацыянальнасць І. Канановіч схільны да абагульнення. Ён звяртаецца да абстрактных паняццяў, якія ў вершах фігуруюць выключна з вялікіх літар: Адзінота і Страх, Душа, Гульня, Любоў і Нянавісць, Праўда і Крыўда. Гэтае імкненне да вялікага можна параўнаць з творчай манерай мастака, які кладзе фарбу густа і шырокім мазком. Драматызацыя, пра якую мы казалі раней, выяўляецца з самага першага твора, дзе аўтар ускладае на свае плечы метафарычны крыж. Гэты крыж з'явіцца яшчэ не аднойчы. Старажытны, сэнсава багаты архетып пры такім частым ужыванні губляе вастрыню, і жаданне аўтара выказаць свае пачуцці мага вастрэй паварочваецца супраць яго самога.

Цікава, што калі І. Канановіч звяртаецца да сімволікі, то гэта альбо стыхія вады, альбо ваенныя «прадметы» — ад кулі да «МіГ»а. Прычым апошняе часцей за ўсё выкарыстоўваецца ў любоўнай лірыцы. Вада, у сваю чаргу, выступае як адзін бок свету, а суша — тагасвет. Найбольш паказальная тут балада «Важак» — выбітны твор, які ўжо цяпер можна ўключыць у выбранае, якое І. Канановіч выдасць праз многа-многа гадоў. Балада — ілюстрацыя змагання, сляпой веры ў выратаванне, веры ў Той Свет, які абарочваецца гібеллю, гібеллю тым больш цынічнай, што яна ідзе на карысць ворагу. Але і тут І. Канановіч захоўвае бадзёры тон. Па гэтай адметнасці — бадзёры тон пры песімістычным змесце — яго вершы лёгкапазнавальныя.

Выключэннем можна лічыць хіба што асобныя творы з патрыятычнай лірыкі, у якіх прасочваецца ўжо не жаданне драмы, а непадробны боль. Не менш хвалюе яго і самаідэнтыфікацыя як паэта, носьбіта «вялікага і светлага». Навят калі І. Канановіч прамаўляе не ад сябе, апісвае іншага творцу, відавочна: ён атаясамлівае сябе з героем, пераймае яго рысы, бачыць у ім ідэал. Лаканічна сфармуляваў свае адносіны з паэзіяй І. Канановіч у праграмным вершы «Дзве радзімы».

Што цікава, замест твораў пра 1930-я гады, якіх можна было б чакаць ад такога паэта, ён піша пра 1990-я, атмасфера ў якіх не менш трывожная і гнятлівая, нават горш: калі тыя, хто загінуў у 1930-я, героі, то тыя, хто прайшоў 1990-я, да герояў не дацягваюць — яны проста скалечаныя душой, разгубленыя ці не вераць у лепшае.

Цікавая метафара раскрываецца ў «Захопленым горадзе», дзе лёгка можна правесці паралель між старажытным Рымам і сучаснай Беларуссю — ці ўвогуле абстрагавацца ад часу і геаграфіі, адчуць трагедыю (зноў трагедыя!..) велічы і гібелі. І ўсё ж хочацца нагадаць, што рымляне ў вачах іншых народаў былі такімі ж варварамі, пра якіх піша І. Канановіч.

Апошні раздзел больш стрыманы, у ім голас паэта спакайнейшы і не спрабуе апантана давесці сваю ісціну. Тут роздум спалучаецца з пейзажам, тут — захапленне прыродай і радасць сузірання.

Адзінае, пра што шкадуеш па прачытанні дэбютнага зборніка Ігара Канановіча «Астэроід», дык гэта што вершы не пазначаныя пэўнымі гадамі: так можна было б зразумець, дзе аўтара падбухторваў юнацы максімалізм, а дзе мы маем справу са сталай манерай пісьма, уласна голасам паэта.

**Наста ГРЫШЧУК**

## Нататкі чытача

# Тэатр аднаго драматурга

Сярод прызнаных майстроў драматургіі цяжка вылучыць лепшага, бо кожны своеасаблівы, адметны. Аднак сёння гаворка пойдзе пра Анатоля Дзялендзіка.

Яго героі — не зоркі сусветнага маштабу. Гэта самыя звычайныя людзі, рысы якіх сустракаюцца ў кожнага з нас. Лепшыя творы і споведзь самога аўтара змешчаныя ў кнізе «Гульні на краі прорвы». Пра яе ў прадмове «Іранічная споведзь» А. Дзялендзік сказаў так: «Зборнік складаецца з розных матэрыялаў, часам здаецца, што пісалі іх розныя аўтары. Што ж, у Пікаса таксама былі розныя перыяды — ружовы, блакітны... Змясціў у зборнік некалькі камедый. Як жа без іх драматургу, камедыёграфу? Лаўлю сябе на думцы — а ці так шмат вясёлага ў гэтай кнізе? Тым не менш усцешуся, калі чытач усміхнецца, а недзе і пасмяецца. Як казалі разумныя людзі, той дзень, калі мы не смяёмся, для нас згублены».

Аматарам кіно А. Дзялендзік знаёмы па фільме Ю. Елхава «Анастасія Слуцкая», дзе выступіў сцэнарыстам. Фільм атрымаў шмат узнагарод, аднак ці з'яўляецца сцэнарый да яго самай знакавай працай А. Дзялендзіка? Адказ на пытанне можна атрымаць, паглыбіўшыся ў творчасць аўтара.

Часта празаіку, паэту або драматургу прыпісваецца ярлык «майстар чагосьці». Безумоўна, падобны ярлык можна прыпісаць і А. Дзялендзіку — майстар дыялогу. Драматургія сама па сабе — гэта дыялог, і ў першую чаргу з гледачом. Між тым творы А. Дзялендзіка не простыя п'есы з рэмаркамі. Гэта проза з мінімумам слоў аўтара і максімумам слоў герояў.

Сатыра і гумар — неад'емная частка твораў А. Дзялендзіка. Менавіта камедыйны жанр прынёс вядомасць аўтару. Некалькі гадоў таму выйшаў зборнік камедый «Гіпапатам», а ў тэатрах з поспехам ішлі «Яблычны Спас», «Жанчына як сродак ад бяссонніцы», «Яго апошняе каханне Лета», «Палюбоўніцы майго мужа». Напэўна, драматург ведае, што трэба чалавеку для шчасця: некалькі гумарэсак — і вось ён, смех.




У зборнік «Гульні на краі прорвы» ўвайшлі камедыя «Гогаль-могаль», трагікамедыя «Дамоклаў меч», байка «Курыная вайна», фантасмагорыя «Год тыгра». Асаблівую цікавасць выклікае апошняя. Займальная гісторыя, што разгортваецца ва ўяўленні французскай кіназоркі, з камічнымі персанажамі і адсылкамі да сапраўдных гістарычных асоб — Гітлера, Нерона, Чынгісхана.

Але не толькі гумарам пранізаная творчасць А. Дзялендзіка. Драма «Карона кахання» прысвечаная ўзаемаадносінам Янкі Купалы і Паўліны Мядзёлкі. За аснову ўзятыя рэальныя гістарычныя звесткі, дзейныя асобы — таксама рэальныя людзі. Лінія кахання паказваецца вытанчана і прыгожа. Вельмі цікавае афармленне рэплік: і Янка Купала, і Паўліна Мядзёлка цытуюць вершы песняра, і хоць твор напісаны па-руску, самі вершы гучаць на мове арыгінала. Ад пачатку і да канца героі нібыта распавядаюць самі пра сябе, аналізуюць свае дзеянні і зазіраюць у будучыню.

З новага боку спазнаём А. Дзялендзіка ў творы «Юны ад'ютант». Менавіта спазнаём: твор аўтабіяграфічны, напісаны па матывах партызанскага дзяцінства аўтара. Кажуць, што, не бачыўшы вайны, пра яе не напішаш. А. Дзялендзік бачыў яе яшчэ дзіцём, а такія ўспаміны застаюцца ў памяці надоўга, і твор атрымаўся вельмі эмацыянальным. Тут пануюць смерць і гора, а для звыклых смеху і гумару месца няма. Малы Антон гэта добра ўсведамляе — і таму так імкнецца на фронт.

Псіхалагічным з'яўляецца апавяданне «Гульні на краі прорвы». Застацца ў сям'і або паддацца хвіліннай слабасці — перад такім нялёгкім выбарам ставіць свайго героя аўтар.

Па прафесіі псіхатэрапеўт, А. Дзялендзік стаў знакавай фігурай у беларускай драматургіі. Прафесія дапамагла: як урач ён лечыць душы гледачоў і чытачоў смехам, а камусьці дапамагае і драматэрапіяй. Кожны вобраз — індывідуальны, прапісаны тонкім псіхолагам.

Гульні на краі прорвы… На сцэне тэатра або ў жыцці? Вядома адно: прорва паміж гледачом і драматургам удала запаўняецца.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Майстар-клас па турызме, альбо Дзе жыве гасцінны Цмок?

Наўрад ці Уладзімір Караткевіч, нават з яго неўтаймоўнай фантазіяй, мог прадбачыць, якое наступства займее апублікаваны ім у 1966 годзе раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». І размова тут не пра літаратурныя ўплывы і не пра поспех самога твора. Міжволі пісьменнік стварыў цуд: ажывіў старажытнага цмока.

Праўда, на гэта спатрэбілася без малога паўстагоддзя. 2013 год стаў для Лепеля знакавым: на беразе Лепельскага возера з'явіўся той самы цмок, якога найзнакаміцейшы беларускі фантазёр тут пасяліў. І ўжо налета ў горадзе адбыўся першы фестываль беларускай міфалогіі «У госці да лепельскага Цмока» — з музыкай, кірмашом, шматлікімі гасцямі і, як мае быць, эмблемай, што вельмі хутка стала пазнавальнай, ператварыўшы грозную істоту ў брэнд горада.

Зрэшты, ці такі ўжо грозны беларускі цмок? Пасля фестывалю можна адказаць пэўна: ён лагодны, ветлівы і гасцінны.

Сёлетні фэст стаўся міжнародным: акром удзельнікаў з Беларусі, у Лепель з'ехаліся музыкі, кулінары, танцоры, майстры і аматары міфалогіі з Расіі, Латвіі, Літвы, Кітая… Да ўсяго, высокі статус мерапрыемства падкрэслівала прысутнасць прадстаўнікоў дыпкорпуса. З прывітальным словам падчас адкрыцця фестывалю выступілі намеснік Кіраўніка Пасольства Славакіі ў Беларусі, саветнік Эрык Ліптак, саветнік па пытаннях культуры Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Маргарыта Навадворская, Віцэ-консул Пасольства Латвіі ў Беларусі Інгас Вейціс (дарэчы, Лепельскі раён зусім нядаўна ўдзельнічаў у кулінарным праекце «*Bella Kouzina*», што праходзіў у Латвіі). Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шарэпка, на жаль, сам прысутнічаць на адкрыцці фестывалю не мог — дыпламатычная місія спадара Лешака заканчвалася, — але перадаваў лепельчанам шчырае прывітанне.

Вялікае значэнне фэсту падкрэсліў старшыня Лепельскага райвыканкама Барыс Яфрэмаў:

— Фестываль сабраў усіх, хто займаецца адраджэннем, захаваннем, развіццём культурнай, моўнай, этнічнай самабытнасці. Упэўнены, фестываль паспрыяе развіццю сяброўства і міжнароднага супрацоўніцтва. Вельмі дарэчы прыйшлася падчас адкрыцця «інфармацыйная хвілінка» ад Дар'і Мацкевіч, начальніка ўпраўлення спорту і турызму Віцебскага аблвыканкама. Спадарыня Дар'я распавяла гасцям пра турыстычныя адметнасці Лепельскага краю. Аказваецца, турызм тут развіваецца вельмі паспяхова: горад займае першае месца па экспарце турыстычных паслуг сярод іншых раённых цэнтраў, такім чынам, ён другі ў вобласці пасля самога Віцебска. Звязана гэта перадусім з тым, што ў Лепелі знаходзяцца знакамітыя здраўніцы — Лепельскі ваенны санаторый, Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Жамчужына». Безумоўна, шмат наведвальнікаў прымае Бярэзінскі біясферны запаведнік (адна са старэйшых ахоўваемых тэрыторый Еўропы), створаны ў 1925 годзе. Хочаце пакарміць з рук магутнага зубра? Неабавязкова ехаць у Белавежскую пушчу. Таксама на Лепельшчыне працуе кластар аграсядзіб — на пачатак года іх налічвалася 25. Згадаем таксама абрадавую гульню «Жаніцьба Цярэшкі», што здаўна праводзіцца на Лепельшчыне і ўключаная ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь як нематэрыяльная спадчына краіны.

І, канечне ж, прырода. Дырэктар Нацыянальнага агенцтва па турызме Рыгор Памяранцаў заўважыў, што часта як належнае прымаецца тое, што нас акаляе. «Але трэба толькі агледзецца, каб зразумець, якімі багаццямі мы валодаем. Іх дастаткова, каб здзівіць і натхніць шматлікіх гасцей і суседзяў. Сёння мы маем магчымасць здзіўляцца яшчэ і цудоўнай, унікальнай легендзе пра Цмока, што жыве ў тутэйшым возеры».

Таксама ўдзельнікаў і гасцей фестываля прывіталі яго арганізатары і партнёры — турапэратар «РайдаТур» і кампанія «Будзьма беларусамі!».

Ад фестывалю міфалогіі варта чакаць самых яркіх уражанняў, і сёлета Лепель не расчараваў.


*Святаслаў Няхайчык прэзентуе работы ў Даліне майстроў.*

Насычаная праграма не давала ні хвілінкі на роздум і адпачынак. Пры гэтым арганізатары паклапаціліся пра «геаграфічную зручнасць»: усе мерапрыемствы адбываліся ў гарадскім парку на беразе Лепельскага возера (што было вельмі дарэчы ў жнівеньскую спёку). Пройдземся і мы па ўрочышчы Цмока.

Па-першае, магічны яр. Тут праводзіліся старажытныя практыкі стасункаў з духамі прыроды, абрадавыя песні і танцы. Ладзілі іх Уладзімір Долін, госць з Масквы, і студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Увечары, калі запалілі вогнішчы, праводзілася яшчэ і абрадавае дзеянне на шчасце і дабрабыт Лепельскага краю і яго жыхароў (цікава, што адбывалася гэта насупраць каталіцкага храма).

Па-другое, Музычны алімп. Самы звычайны гарадскі амфітэатр сапраўды ператварыўся ў вяршыню айчыннай — і не толькі — музыкі. Мясцовыя ўлады запрасілі ў Лепель Змітра Вайцюшкевіча, *Naka*, гурты «Страла», «Стары Ольса», «Рокаш», «*Vuraj*» і «*Trio de Vilna*», гасцей з Літвы, якія выконвалі музыку часоў Міхала Клеафаса Агінскага — і, вядома ж, несмяротны паланэз «Развітанне з Радзімай».


*Музычны падарунак ад «Старога Ольсы».*

У танцавальнай лагчыне — гэта па-трэцяе — няспынна ладзіліся майстар-класы па народных танцах (у тым ліку пад жывую музыку, якую забяспечыў Алесь Лось) і песнях. Тут жа можна было паўдзельнічаць у народных гульнях, пазнаёміцца з экатэхналогіямі па вырабе прадметаў побыту і прадуктаў харчавання.

Чацвёртае — дзіцячы пагорак. Акром звыклых для «паркавых» гулянняў атракцыёнаў, для дзяцей падрыхтавалі казкі і легенды, народныя забавы, і ці існуе лепшы спосаб навучыць дзіця свайму, роднаму, як праз ігравую форму?

Натуральна, знайшлося месца і ядомым цудам: на кулінарным востраве не толькі частавалі народнымі стравамі Беларусі і блізкага замежжа, але і давалі майстар-класы. Да ўсяго — даліна майстроў, якая заўжды прэзентуе матэрыяльную культуру краіны найлепшым чынам, і азнаямленне з аздараўленча-курортнымі ўстановамі і санаторыямі Беларусі. Гэта лішні раз падкрэслівае турыстычную скіраванасць фестывалю. Асабліва калі дадаць, што ў яго межах адбыўся трэнінг-практыкум для ўстаноў сферы турызму «Азнаямленне з сучаснымі тэндэнцыямі развіцця турызму, міжнароднае супрацоўніцтва», арганізатарам якога выступіла Нацыянальнае агенцтва па турызме.

Фестываль беларускай міфалогіі ў Лепелі «У госці да лепельскага Цмока» не проста забаўляльная праграма для мясцовых жыхароў ды вандроўных гасцей; гэтым разам лепельчане — вядома, пры вялікай падтрымцы партнёраў — паказалі сапраўдны турыстычны майстар-клас. Так, заўжды знойдзецца, што дапрацаваць, але на сёння лепельскаму Цмоку можна паставіць «залік».

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**


*Фота з сайта cmok.budzma.org.*

«Не толькі людзям, а і звярам, і гадам, і пачварам падводным давозілася ў той год цяжка. Якраз тады выдахлі ў Сенненскіх азёрах цмокі, пра якіх пісаў яшчэ прападобны Амбражэй Куцеянскі; якіх цмокаў ён калісьці закляў і загнаў у возера, каб не палохалі людзей. […] І яшчэ казалі вальнадумцы, што каб цмокі былі — яны б народ хапалі, лапалі. І гэта ерась! Па-першае, прападобны Амбражэй тых цмокаў закляў, а па-другое, забылі яны, што ніколі ў тыя часы не аддавала Лепельскае возера трупаў.

А ў той год і вальнадумцы ахнулі. Праўду казаў прападобны. За адну ноч на водмелях тых яшчуркаў, тых цмокаў знайшлі сорак, ды палова таго хісталася на фалях, як плаваючыя выспы. Ды другой раніцай знайшлі яшчэ трохі менш паловы таго, што выдахла ў першую ноч.

А яшчэ праз ноч усплыў самы вялікі. Адзін.

[…] Выглядам той цмок быў, як звер фока, такі самы лысняны, у складках, толькі без поўсці. І шэры, як фока. Але даўжэйшы за яго куды. Бо даўжыні ў ім было сем з паловай лагожскіх сажняў, а калі пацікавіцца немец, то восем і адна пятая фадэна, а калі, можа, ангелец, то сорак дзевяць футаў і яшчэ дваццаць два дзюймы.

Тулава мелі тыя цмокі шырокае і трохі пляскатае, і мелі яны плаўнікі — не такія, як у рыбы, а такія таксама, як у фокі, таўстамясыя, шырокія, але не дужа доўгія. Шыю мелі, па тулаву, дык тонкую і надта доўгую. А на шыі сядзела галава, адначасова падобная і на галаву змяі і на галаву лані.

І, дальбог, смяялася тая галава. Мо проста зубы скаліла, а мо — з нашых бедаў. І зубы былі велічнейшыя з конскія, але вострыя, і многа іх было на такую галаву аж данельга.

Вочы вялізныя, як сподкі, каламутна-сінія ў зелень, ашклянелыя. І страшна было глядзець у тыя вочы, і мурашкі па спіне, нібы Евінага змія ўбачыў, і непамысна неяк, і нібы ў чымсьці вінаваты…».

**Урывак з рамана У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».**


*Выступае гурт «Страла».*

# Арэна баявых дзеянняў — Клецк

**Імя краязнаўцы, даследчыка мінуўшчыны Андрэя Блінца ўжо добра вядомае аматарам гісторыі Беларусі. Так, у 2012 годзе ў рэдакцыі газеты «Звязда» выйшла яго першая кніга «Клецк: старонкі даўняй гісторыі», дзе аўтар звярнуў увагу на адметныя моманты «лёсу» роднага горада. Новая ж кніга спадара Андрэя «Клецкія бітвы: 1506 і 1706 гады», што пабачыла свет сёлета ў выдавецтве гістарычнай літаратуры «Янушкевіч», прысвечаная вайсковай гісторыі краю. Тут даследчык засяроджваецца на дзвюх істотных падзеях: першая бітва прынесла перамогу войску Вялікага Княства Літоўскага над крымскімі татарамі, другая стала кульмінацыяй баявых дзеянняў у Навагрудскім ваяводстве падчас Вялікай Паўночнай вайны. Больш падрабязна пра адметнасці новай кнігі даследчыка, а таксама значэнне падзей, пра якія ў ёй ідзе гаворка, — у нашай гутарцы з аўтарам выдання, загадчыкам сектара навукова-экспазіцыйнай дзейнасці Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» Андрэем Блінцом.**



**— Спадар Андрэй, вы пішаце пра дзве абсалютна розныя па сваім значэнні бітвы, што адбыліся пад Клецкам з прамежкам у два стагоддзі. Адна стала пераможнай для ВКЛ і вырашыла лёс нашых земляў, другая ж прынесла перамогу чужынцам. Але менавіта Клеччына стала «арэнай баявых дзеянняў» у абодвух выпадках. Як паўплывалі гэтыя значныя гістарычныя падзеі на лёс Клеччыны, яе жыхароў?**

— На пытанне трэба даваць два адказы: пра кожную бітву асобна.

Я б паасцярогся сказаць дакладна, як падзеі 1506 года паўплывалі на лёс Клеччыны. Для гэтага трэба прынамсі параўнаць развіццё рэгіёна да і пасля згаданай даты. І вось тут узнікае праблема. Каб намаляваць карціну жыцця Клеччыны на мяжы XV — XVI стагоддзяў, у распараджэнні гісторыка вельмі мала інфармацыі. Крыніцы, уведзеныя ў навуковы зварот, дазваляюць у лепшым выпадку стварыць «эскізны накід», а не паўнавартаснае «палатно». Да таго ж 1506 г. стаў знакавым у ваеннай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, а вось канкрэтна для Клецка… Маркуйце самі. У 1503, 1505, 1506 гг. Клеччыну рабуюць загоны крымскіх татар. Здавалася б, перамога над імі павінна пакласці канец ваенным спусташэнням. Аж не! У 1508 г. «агонь пускаюць» і шкоды чыняць ужо аддзелы мяцежнага князя Міхала Глінскага. Ну і што змянілася?..

Іншая справа, што Клецкая перамога стала ці не самым вядомым эпізодам у гісторыі майго роднага горада і адной з найвялікшых перамог за ўвесь час існавання Вялікага Княства. Яна па праве займае годнае месца ў гісторыі Беларусі. Пра яе чулі нават тыя, хто мала цікавіцца мінуўшчынай. Прыедзьце ў Клецк, мяркую, тут вам кожны пакажа помнік на Краснаставе і скажа хоць некалькі слоў пра тую бітву.

Што да 1706 г., то тут усё прасцей — і трагічней. Чарговая бітва, чарговае спусташэнне, вынішчэнне насельніцтва. У кнізе я прыводжу дакладныя лічбы. Калі ў 1694 г. у Клецку пражывала каля 1200 чалавек, то ў 1713 г. — толькі каля 600. Скарачэнне колькасці жыхароў удвая — вынік падзей Паўночнай вайны, у тым ліку і Клецкай бітвы. Яна надоўга спыніла развіццё горада. Цікава, што яна захоўваецца ў свядомасці нашых людзей. Але з некаторымі асаблівасцямі. Калі ўсе ведаюць, што ў 1506 г. татары пад Клецкам былі разбітыя, то ў дачыненні да 1706 г. можна пачуць самыя розныя версіі адносна таго, хто атрымаў перамогу. Ці то шведы рускіх разбілі, ці то наадварот. Думаю, цяпер такой блытаніны не будзе.

**— Што стала асновай для напісання кнігі? Ці ўводзяцца ва ўжытак новыя крыніцы?**

— Як і кожны даследчык, які займаецца пэўнай эпохай, я абапіраўся на самыя разнастайныя матэрыялы. Гэта і летапісы, і дакументы, і работы папярэднікаў. Шмат увагі надаваў таксама краязнаўчым матэрыялам, якія часам ігнаруюцца сур'ёзнымі аўтарамі. Мая зацікаўленасць Клецкай бітвай з татарамі ўвогуле пачалася ў далёкім 1991 годзе з публікацыі ў раённай газеце. Гэта і стала штуршком для пошукаў.




> *...Клецкая перамога стала ці не самым вядомым эпізодам у гісторыі майго роднага горада і адной з найвялікшых перамог за ўвесь час існавання Вялікага Княства. Яна па праве займае годнае месца ў гісторыі Беларусі. Пра яе чулі нават тыя, хто мала цікавіцца мінуўшчынай. Прыедзьце ў Клецк, мяркую, тут вам кожны пакажа помнік на Краснаставе і скажа хоць некалькі слоў пра тую бітву.*

У дачыненні да бітвы 1506 г. я не ўвёў у зварот новых матэрыялаў. І «Хроніка Быхаўца», і «Хроніка…» Мацея Стрыйкоўскага, і лісты пра Клецкую бітву, на якія спасылаюся і якія прывожу ў дадатку, даўно вядомыя даследчыкам. Але я даю сваю інтэрпрэтацыю падзей, якая шмат у чым розніцца з агульнапрынятай. Напрыклад, па-новаму рэканструюю напрамак галоўнага ўдару, крыху па-іншаму разглядаю суадносіны бакоў. Па-свойму тлумачу некаторыя спрэчныя моманты. Хтосьці з гэтым можа не пагадзіцца і прапанаваць іншую версію. Гэта нармальна.

А вось з падзеямі 1706 г. сітуацыя іншая. Я прывожу даволі цікавы дакумент — рэляцыю барона Карла Густава Кройца, які камандаваў шведскімі аддзеламі, дзе ён падрабязна піша пра разгром расійска-ўкраінскага корпуса. Таксама выкарыстоўваю паведамленні шведскай прэсы пра кампанію 1706 г. З расійскіх аўтараў на рэляцыю Кройца спасылаецца У. Веліканаў, але ён дае толькі паасобныя цытаты. А ў маёй кнізе яна прыведзеная цалкам, у перакладзе на беларускую мову. Таксама змешчаны фрагменты са «Звычайных Стакгольмскіх паштовых навін».

Хачу выказаць падзяку тым, дзякуючы каму стала магчыма выкарыстанне гэтых дакументаў: даследчыку Андрэю Катлярчуку і шведскаму гісторыку Хокану Хенрыксану. Першы адшукаў рэляцыю барона Кройца і даслаў копію, з якой я і працаваў. Другі пераслаў матэрыялы са «Звычайных Стакгольмскіх паштовых навін» і ўвогуле шмат дапамагаў інфармацыяй. І, вядома, асобная падзяка — перакладчыку Алесю Лукавенкаву.

**— Клецк — ваш родны горад. Гэты факт дапамагаў у даследчай працы?**

— Так, сапраўды, бо я пісаў пра мясціны, якія добра ведаю, у адрозненне ад некаторых аўтараў, для якіх Клецк — усяго толькі кропка на карце. Не трэба ўяўляць мясцовы ландшафт — я яго штодня бачу на ўласныя вочы. Натуральна, улічваю змены, што адбываліся цягам стагоддзяў. Гэта істотна дапамагае падчас рэканструкцыі падзей. Мне вельмі лёгка ўявіць, як маглі рухацца харугвы Міхаіла Глінскага, адкуль маглі атакаваць шведскія драгуны.

**— Вы ўжо адзначалі, што пра падзеі 1506 г. вядома шмат, і тут няма спрэчных меркаванняў адносна зыходу бітвы. Чаму так разыходзяцца думкі адносна другой бітвы?**

— Пра падзеі 1506 г. пісалі самыя розныя аўтары, і айчынныя, і замежныя. Ёсць даследаванне польскага аўтара Станіслава Хэрбста, надрукаванае яшчэ ў 1934 г. А сёлета ўбачыла свет грунтоўная работа Уладзіміра Кананoвіча, дарэчы, майго земляка-кляччаніна, «Рэканструкцыя бітвы пад Клецкам». Калі ж пералічваць усе папулярныя артыкулы і зацемкі, то можна скласці цэлую бібліяграфію. З 1706 г. сітуацыя іншая. Пра гэтую бітву ў Расіі пісалі ў 1892 г. і ў 2015 г. У абодвух выпадках гаворка ідзе пра публікацыі ў спецыялізаваных гістарычных часопісах. Былі згадкі ў абагульняючых работах. І ўсё. У беларускай гістарыяграфіі да гэтага часу не было ніводнага (падкрэслю, ніводнага!) спецыяльнага даследавання. Толькі фрагментарныя згадкі ў адзін-два радкі. Так што ў гэтым плане, не палічыце за нясціпласць, мая работа першая.

**— Пішучы кнігу, на якога чытача арыентаваліся? Кіраваліся жаданнем прадставіць матэрыял у навуковым стылі ці папулярным?**

— Я сябе лічыў і лічу ў першую чаргу краязнаўцам. А таму стараюся пісаць у навукова-папулярным стылі, арыентуючыся на чытача, які можа быць і не надта абазнаны ў гісторыі, але хоча больш ведаць пра свой край. Вытрымліваць такі стыль цяжкавата. Трэба і не перагружаць тэкст, і адначасова даць максімум інфармацыі.

Калі б я ставіў на мэце напісаць сур'ёзную навуковую манаграфію, аналізуючы і самі бітвы, і развіццё ваеннай справы, і іх уплыў на палітычную гісторыю, кніга атрымалася б значна большай па памерах і праца над ёй заняла б шмат часу. Але такой мэты не было. Ды і я сябе не адчуваю настолькі падрыхтаваным, каб замахвацца на вялікую работу. Наколькі ўдала атрымалася — няхай мяркуе чытач.

**— З моманту выхаду выдання мінула некалькі месяцаў. Атрымлівалі водгукі ад чытачоў, калег?**

— Водгукі ёсць. Перадусім з асяродка людзей, з якімі кантактую: сябры, знаёмыя, калегі па працы. Збольшага меркаванні пазітыўныя. Навукоўцы, з якімі даводзілася гутарыць, таксама ацэньвалі работу станоўча. Дэталёвых жа рэцэнзій з боку гісторыкаў пакуль не было: ні «разгромных», ні ўхвальных. Калі з'явяцца, прачытаю з цікавасцю.

**— Над чым цяпер працуеце?**

— Не тое, каб баюся суročыць, — не люблю распавядаць пра свае планы. Таму лепей казаць не пра задуманае, а пра здзейсненае. Спадзяюся, для гэтага яшчэ будзе нагода.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Споведзь для ўсіх

**Чалавеку патрэбны той, з кім можна пагаварыць па душах, распавесці пра набалелае, хто дасць параду. Пытанняў узнікае мноства, хоць бы і паўсядзённых: чаму муж не звяртае ўвагу, дзіця замыкаецца ў пакоі па вечарах, сяброўка радзей тэлефануе, а на працы знікла разуменне з боку начальства. Добра, калі ёсць з кім падзяліцца. А калі не? Для гэтага існуюць адмысловыя творы — творы-натхняльнікі. З падобных — кніга-блог Таццяны Сулімавай «Паслухайце што!», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда».**

Калі вы яшчэ не ведаеце аўтара, то знаёмцеся: ды-джэй на радыё, вядучая тэлеперадач, уладальніца рэкламнага агенцтва, пазаштатны аўтар газеты «СБ. Беларусь сегодня», шчаслівая мама, любімая жонка і заўзятая падарожніца. Дарэчы, менавіта аўтарская калонка ў адным з вядучых друкаваных выданняў краіны стала асновай для стварэння ўласнай кнігі.

Таццяна Сулімава, як і мусіць журналіст і блогер, прыкмячае цікаўныя і яркія дэталі сярод паўсядзённай руціны, міма якіх мы праходзім, з чыстым сумленнем утаропіўшыся ў асфальт. Шмат у чым яе развагі філасофскія — у тым сэнсе, што даюць падставу лішні раз задумацца над жыццём, асабліва паводзінамі, звычкамі, асяроддзем.

Чаму натхняльнік? Справа ў тым, што пасля «Паслухайце што!» хочацца ўзяць і змяніць сваё жыццё. Вось так проста — адважыцца нарэшце скокнуць з парашутам, запісацца на ўшу, сысці ад дакучлівага бойфрэнда (ці дзяўчыны), звольніцца з ненавіснай працы або завесці вялікага і пухнатага сабаку, хай і ў маленькай аднапакаёўцы на ўскрайку горада. А можа, нават кнігу напісаць.

Аўтар не суцяшае сваіх чытачоў банальным: «Не плачце, мілыя, усё будзе добра!». Яна падганяе, дае лёгкі «штурхель» і наводзіць на думку, што песімізм і сіндром «няшчаснага» — абсалютова чужародная для чалавека матэрыя, таму што ўсё можна змяніць. Было б жаданне. Аўтар аналізуе, што перашкаджае людзям у розных сітуацыях ажыццявіць сваю мару. «Нешта зямное, што павінна хутка адбыцца, заўсёды адцягвае нас ад палёту. Хутка прэмія і зарплата — нельга звальняцца цяпер. Хутка ён са мной ажэніцца, а другі — не хутка. Мне хутка сорак. Хутка лета», — кажа яна. Сапраўды так, ці не праўда?

Таццяна Сулімава ўпэўнена праграмуе нас на тое, што ўсё насамрэч у жыцці проста: «Хочаш сонца — ляці да яго, акунайся ў мора, любі сабе, жыві. А людзі ж не ведаюць... Шукаюць адказ і кажуць адно аднаму: «Галоўнае — зіму перажыць!». Уздыхаюць цяжка і наліваюць па поўнай».

Дзякуючы яе пазітыўным, мудрым альбо, наадварот, бесклапотным словам у прамым эфіры многія людзі зрабілі правільны выбар у сваім жыцці, таму што своечасова змянілі настрой. Цяпер ёсць яшчэ і кніга — так што адважвайцеся! Кожны чуе тое, што хоча пачуць.

У кнізе «Паслухайце што!» сем раздзелаў, займальных пасвойму. Рамантычныя ўспаміны пра сапраўднае савецкае марожанае, «выратавальніка чалавецтва» Леніна, адчайных хіпі і страшылкі ў піянерскіх лагерах змяняюцца замалёўкамі пра дзівацтвы чалавечай псіхікі, «неафобію» і правілы здаровага кахання.

Потым ідуць аўтарскія споведзі: пра першыя дзённікі ў дзяцінстве, недарэчныя цэннікі да пафасных рэчаў у крамах і рэстаранах, абаяльнасць прастаты і сакрэты жаночага ўзросту. Аповед плаўна перацякае ў смешныя (і павучальныя) гісторыі з жыцця маладой мамы, а потым ператвараецца ў рэпартажныя нататкі аматара блукаць па свеце і ўдыхаць водар мора. Аўтар, між іншым, пабывала нават на Чылійскай Патагоніі — ледзь не ў самым містычным месцы на планеце, не кажучы ўжо пра Сіцылію і Барселону, Парыж і Нью-Ёрк... Таму ёй ёсць што сказаць.

Зразумела, гаворка ў кнізе-блогу ідзе і пра ўзаемаадносіны мужчын і жанчын — гэта невычэрпная тэма, якая хвалюе нават тых, хто ў гэтым не прызнаецца. Завяршаецца выданне даволі нечакана — прысвячэннямі тым людзям, якія ўразілі аўтара, хай нават падчас мімалётнай сустрэчы ў кавярні, як гэта адбылося з легендарнай спявачкай Сезарыяй Эвара.

Шмат у чым проза Таццяны Сулімавай гучыць як пасланне цяперашняму пакаленню, тым, хто нарадзіўся і вырас у 1990-я. Аўтар праводзіць маленькую экскурсію ў СССР, згадваючы мілыя і цёплыя дэталі побыту таго часу, прасякнутага словамі «таварыства», «узаемадапамога», «сацыялізм», «мір, праца, май». Жыва ўяўляеш, як гэта: з заміраннем сэрца глядзець «Госцю з будучыні» ў кінатэатры, здымаць парушынкі з піянерскага значка, стаяць у вялікай чарзе ў краме, каб запоўніць трохлітровы слоік




ледзяным сметанковым ласункам, «вісець дагары нагамі на перакладзіне для выбівання дываноў», сушыць на вяроўках пакеты з-пад малака і смятаны... «Сумяшчаючы несумяшчальнае, мы стварылі асаблівую культуру, крута замяшаную на савецкім школьным выхаванні і бабуліных казках». А далей — пра прыкметы ад сутыкнення босай нагой з іголкай да паглынання «шчаслівых» трамвайных квіткоў.

Чытаць Таццяну Сулімаву — адно задавальненне. Аўтар кажа пра вядомыя рэчы, але робіць гэта з такой любоўю да дэталяў і з такім гумарам, што мімаволі трапляеш у яе атмасферу. Дасціпнасці ў стылі і вялікага арсеналу трапных выразаў ёй таксама не займаць.

У раздзеле кнігі «Пункцікі» гаворыцца ўжо не пра гістарычныя падзеі ў краіне, а пра рэчы ўнутранага свету, тое, што старанна хаваецца людзьмі. Атрымаўся аповед вельмі займальны і... павучальны! Прычым Таццяна Сулімава не проста дэкламуе нам нейкія збітыя ісціны пра сама-ацэнку, Зігмунда Фрэйда ці ролю сацыяльных фактараў, а прыводзіць прыклады са свайго жыцця, асабістыя, зразумелыя. Напрыклад, пра сяброўак, адна з якіх «падсела» на кармічныя вузлы і гараскопы, а іншая — на строгае сартаванне смецця і экалогію. Аўтар не пасмейваецца, а, наадварот, вучыць прымаць свае дзівацтвы, жыць у гармоніі з такім складаным унутраным «Я» і ўсімі яго мадыфікацыямі. «Бо ўсе мы трошкі таго...». Таццяна Сулімава прыводзіць бясспрэчныя аргументы на гэты выпадак, бо Альберт Эйнштэйн, напрыклад, ніколі не насіў шкарпэтак, Людвіг ван Бетховен лічыў, што галенне перашкаджае натхненню, а перад тым, як садзіцца за напісанне музыкі, выліваў сабе на галаву вядро халоднай вады. Так што любоў да сябе, такіх, якія мы ёсць, — гэта натуральна!

Словамі Таццяны Сулімавай, калумністы павінны «чуць паміж гукамі, бачыць паміж кадрамі, адчуваць нешта глабальнае, калі іншыя думаюць, што жыццё цягнецца шэрай руцінай». У яе гэта выдатна атрымліваецца! Асабліва заўважаць маленькія цікавосткі жыцця, тое, што «праносіцца міма дваццаць пятым кадрам». А ўявіце: магчыма, яно ўжо ніколі не паўторыцца.

# Буслік шчасця

Любоў да радзімы і прыроды трэба прывіваць дзецям з маленства. Пра гэта добра ведае Надзея Парчук, аўтар кнігі вершаў, казак і загадак «Венерын чаравічак», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Багата ілюстраваны зборнік запрашае маленькіх чытачоў у свет звяроў і птушак. Белыя буслы майструюць гнёзды на дахах дамоў, галасістыя зязюлі абуджаюць кукаваннем зялёны гай, а ў нябёсах спявае сваю «сімфонію» жаўручок.

Беларусь паўстае перад вачыма тых, хто толькі пачынае спасцігаць свет, краем цудоўных рэк і лугоў з духмяным мурагом, векавых бароў і пушчаў, незлічоных лясоў пад ласкавым небам. Аўтар апісвае ўсе станы прыроды: ад зімовага сну і карагоду сняжынак да вясновага абуджэння пад звон ручаёў і «ўсмешкі» пралесак. «Песціцца ранак ружовы / Ў золаце шчодрага поля./ Жыта схіліла галовы, / Росы спадаюць паволі», — вось так маляўніча апісваецца жнівень. Дораць спакой сэрцу і такія радкі: «Вечар чыстаю расой / Падбадзёрыў ліпы, / Атуляе цішынёй / Родныя сядзібы».




Старонкі кнігі поўныя сонечнага святла — здаецца, усюды яго промні, амаль у кожным вершы. Часам героямі выступаюць самі дзеці — то будаўнікі птушыных домікаў, то маленькія агароднікі ці збіральнікі салодкага ляснога прысмаку — маліны. Надзея Парчук вучыць не толькі назіраць за прыгажосцю свету, але і рабіць добрыя ўчынкі — дамапагаць дарослым, клапаціцца пра прыроду, напрыклад, не ленавацца высаджваць дрэвы, палівацькветкі, ладзіць кармушкі для птушак.

Чарадзейны Венерын чаравічак, што хаваецца ў траве, калі месяц сустракае сваю каханую, вожык, які сябруе са звычайным беларускім хлопчыкам, самаробны «Камерунг» з амаль сапраўдным капітанам — чытачы знойдуць на старонках кнігі не толькі добры настрой, але і мноства цудаў.

Марыя ВОЙЦІК

# Пілот украінскіх авіяліній

**Пра паэзію Сергія Жадана разважаць цяжка — як, у прынцыпе, і спрабаваць атрымаць уяўленне аб ёй па перакладах: тым, каго блізкая нам усходнеславянская мова не пужае, можна толькі параіць паслухаць вершы ў аўтарскім выкананні — балазе, у сецівe іх стае ў розным выглядзе. Астатніх чытачоў ад нядаўняга часу можна адсылаць да кнігі беларускамоўных перакладаў вершаў С. Жадана пад назвай «Украінскія авіялініі». Зборнік налічвае каля сотні выбраных твораў у перакладзе Андрэя Хадановіча і дзясятка іншых беларускіх літаратараў. Зрэшты, тэматыка і паэтыка вершаў і прозы С. Жадана непарыўныя.**

Кароткая проза пісьменніка ўяўляе сабой фактычна падарожны даведнік па ўсходнеўкраінскім горадзе. Тут паўстаюць усе тыпы і рэаліі Харкава дзевяностых і двухтысячных, якія, безумоўна, могуць часткова падаца знаёмымі і беларускаму чытачу — што не выключае, аднак, і наяўнасці істотных адрозненняў. Першы раман Жадана «Дэпеш мод» таксама распавядае пра жыццё звычайных харкаўскіх юнакоў, без лішніх хітрыкаў і надмерных сюжэтных паваротаў. Кніга зрабілася культавай і даўно расхапаная на цытаты.

«*Anarchy in the UKR*» фактычна не раман, а збор розных па структуры і прынцыпе складання нізак апавяданняў, дзе крытэрыямі выступалі як этапы падарожжа па малой радзіме, так і храналогія разнастайных успамінаў, і спіс улюбёных музычных кампазіцый. Тут кожны знойдзе нешта да густу — гэта, бадай, асноўная прыкмета і агульная рыса прозы С. Жадана: чытаючы, вы неадназарова будзеце лавіць сябе на думцы, што падпісваецеся пад кожным словам аўтара. Назіранні мо і сапраўды няхітрыя, але ж напісаць гэтак больш ніхто не здолеў.




«Варашылаўград» — бадай, квінтэсэнцыя любові да ўжо згаданай малой радзімы і радзімы вялікай, якія для Жадана непадзельныя. Героі бароняць ад рэйдарскага захопу занядбаную бензакалонку і закінуты аэрапорт, што аказваюцца іх найдаражэйшымі скарбамі, з якімі так шмат звязана ў мінулым. Мясціны, дзе прайшлі маладыя гады, надаюць сілы і ўпэўненасці ў змаганні за сваё. На адрозненне ад дзвюх папярэдніх, гэтая кніга пакуль не апублікаваная ў беларускамоўным перакладзе, але, безумоўна, уяўляецца сёння найбольш актуальнай — і не толькі паводле часу стварэння.

Як можна заўважыць, С. Жадана перадусім цікавіць сучасная постсавецкая рэчаіснасць Украіны, у тым ліку не чужая яму і сацыяльная тэматыка. Моўнае пытанне для аўтара праблемы не ўяўляе — у жыцці і творчасці пісьменнік карыстаецца ўкраінскай мовай, хаця прызнае, што прататыпы яго герояў




часта размаўляюць па-руску. Жадан шырока ўжывае размоўную і ненарматыўную лексіку, што ў тэкстах падобнай тэматыкі цалкам абумоўлена і выглядае гарманічна. Зрэшты, як адзначае сам аўтар, не пісьменнікі вучаць чытачоў кепскаму, а хутчэй наадварот.

Творы С. Жадана перакладзеныя больш чым на дзесяць моў і даволі добра вядомыя за межамі Украіны. Яго публікацыі двойчы былі ўганараваныя прэміяй «Кніга года Бі-бі-сі», а раман «Варашылаўград» названы «Кнігай дзесяцігоддзя». Безумоўна, прычынай такой папулярнасці і даступнасці гэтых твораў можна назваць шчырасць, нязмушанасць і іранічнасць стылю, гарманічнае пяднанне максімальнага рэалізму і міфалогіі, арыгінальнасці сюжэту і віртуознай постмадэрнісцкай гульні.

Сергій Жадан наведваў Мінск з літаратурнымі выступамі чатыры разы — у 2002, 2008, 2012 і 2014 гадах. Сёлета ў чэрвені, на пяты раз, прыязджаў з музычнай праграмай. Нягледзячы на шалёную колькасць дэцыбелаў, атмасфера ў зале аднаго з мінскіх клубаў панавала цёплая, амаль хатняя — аўтар і яго творчасць даўно маюць у Мінску дружнае і адданае кола прыхільнікаў. Хочацца верыць, што гэты візіт быў не апошнім.

**Антон РУДАК**

### Даведка «ЛіМа»

Сергій Жадан — украінскі пісьменнік, паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Старабельску Луганскай вобласці, у 1996 скончыў факультэт украінска-нямецкай філалогіі Харкаўскага педагагічнага ўніверсітэта, пэўны час там выкладаў, атрымаў ступень кандыдата. Дэбютаваў у 1995 годзе зборнікам вершаў «Генерал Юда» і за дваццаць год апублікаваў дзесяць кніг паэзіі, апошняя з якіх з'явілася сёлета ўвесну і мае назву «Жыццё Марыі». У 2004 годзе пабачыў свет зборнік апавяданняў «Біг мак», які пазней вытрымаў шэраг перавыданняў з дадаткамі, у наступныя гады з'явіліся кнігі кароткай прозы «Гімн дэмакратычнай моладзі» (2006) і «Месапатамія» (2014), раманы «Дэпеш Мод» (2004), «Anarchy in the UKR» (2005) і «Варашылаўград» (2010). За апошнія дзесяцігоддзі былі выдадзеныя таксама каля дзясятка тамоў выбраных твораў, якія карыстаюцца надзвычайным попытам. Разам з гуртом «Сабакі ў космасе» С. Жадан як аўтар і выканаўца запісаў музычныя альбомы «Спартыўны клуб арміі» (2008), «Зброя пралетарыяту» (2012) і «Змагайся за яе» (2014). Перакладае з нямецкай, польскай, рускай і беларускай моваў. Жыве ў Харкаве.

---

**Магамед АХМЕДАЎ**



Апошнім часам актыўна працую над перакладамі кнігі вершаў сучаснага аўтара, народнага паэта і старшыні Саюза пісьменнікаў Дагестана Магамеда Ахмедава. Творы выдатнага лірыка цікавыя па духу, грамадзянскай пазіцыі, абвостранай сыноўняй любові да горнага куточка, у якім ён нарадзіўся і вырас. Нядаўна нашы творчыя саюзы падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Упэўнены, чытачам штотыднёвіка будзе цікава прачытаць вершы гэтага паэта на беларускай мове.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# Песні часу

## Голас песні

*Голас песні я пачуў у сэрцы*
*На сваю і ўдачу, і бяду.*
*Клікнула яна мяне, паверце,*
*І за гэтай песняй век іду.*

*Нада мною сонечныя буры*
*У нябёсах рассыпаюць звень.*
*На старэчым песенным пандуры*
*Хто мне грае ў сэрцы кожны дзень?*

*Хто мяне ў тумане аклікае,*
*Сумам ахінаючы здаля?*
*Хто мне тыя песні напявае? —*
*То Радзіма жаліцца мая.*

## Святло ачага

*Горычны палын і павітуху*
*Радасна гатовы адбымаць.*
*Хараство праменістага духу*
*Нам сягоння цяжка захаваць.*

*Над людской мізэрнай мітуснёю*
*Бог з надзеяю глядзіць на нас.*
*Кроўю непавіннаю былою*
*Будучыні шчокі збарвіць час.*

*Поўнасцю, як ёсць, свой лёс прымаю.*
*Я люблю радзімы край і дом,*
*Бо іх саграваў і саграваю*
*Ачага бацькоўскага святлом.*

## Нітачка ратунку

*Што сказалі іншыя ў дарозе —*
*Іх Гасподзь пакліча даць адказ.*
*Ну а ты штодня жыві ў трывозе,*
*Бог цябе спытае, прыйдзе час.*

*Пятніца, субота ці нядзеля,*
*Панядзелак, можа, ці чацвер*
*Будзе гэты дзень, калі з надзеяй*
*Бог цябе ўратуе, грэшнік, вер.*

*За свае сумненні і пакуты*
*Толькі Слова Божага малю,*
*Да нябёсаў думкамі прыкуты,*
*Нітачку ратунку я лаўлю.*

## Найвышэйшая ласка

*Алах мой Дагестан стварыў,*
*Даў мне ў жыцці любоў і сілу.*
*Усё, чым шчодра адарыў,*
*З сабой не забяру ў магілу.*

*Ён даў мне ўсё. Ні ад чаго*
*Не меў я права адмаўляцца.*
*І з ласкі велічнай Яго*
*Я ў гэты свет прыйшоў аварцам.*

*Калі надыдзе час — памру.*
*Любоў, краіну і папаху*
*Даверу сыну я сваіму,*
*Бо сын належыць мой Алаху.*

## Бурка Шаміля

*Бурку ў небе разаслаў Шаміль,*
*Зоркі ўсе праз бурку ён прасеяў.*
*У дзяцінстве чуў я гэту быль.*
*Як паэт, я ў гэту быль паверыў.*

*Тысячы мюрыдаў як адзін*
*За Радзіму біліся арламі.*
*Узляцелі ўсе ў нябёсаў сінь,*
*Як арлы над горлымі гарамі.*

*Плакала наўзрыд Гуніб-гара,*
*Не хавала выгляд свой балесны.*
*Зоркі, нібы морам серабра,*
*Залівалі край святлом нябесным.*

## Сіроцтва

*Бацькамі ўсюды кінутыя дзеці.*
*І лёс бацькоў такі ж бядотны стаў.*
*О, Божа. Што ж то дзеецца на свеце?*
*Адзін бардак — каб чорт яго пабраў!*

*І возьме чорт, бо ён такі прайдоха,*
*Бярэ, калі няма гаспадара.*
*Такая ўжо зладзюжная эпоха,*
*Што закрычаць мне лепей: «Цур-цура!»*

*Збываецца далёкае прароцтва.*
*Багатых шык спакою не дае.*
*Сусветнае балючае сіроцтва*
*На ўсёй планеце нашай настае.*

## Пасмяротныя пасланні

*Мне не забыць вас, продкі дарагія,*
*Што ў іншы свет пайшлі ў сумотны час,*
*Аблічча вашы помню я зямныя*
*І пашанотна думаю пра вас.*

*З хвіліны гаркатлівай развітання*
*Не раз бывала на маім вяку,*
*Я вашы пасмяротныя пасланні*
*У вершаваным узнаўляў радку.*

*І сам я анямелымі губамі,*
*Калі стаю ля брацкага агню,*
*Маўкліва размаўляю доўга з вамі,*
*Вы ў небе споведзь чуеце маю.*

## Новы век

*Скіну плашч на дарозе,*
*Пажылы чалавек, —*
*Я стаю на парозе*
*Ў новы, будучы век.*

*— Што стаіш на парозе, —*
*Кажа век мне, — джыгіт?*
*Нам з табой па дарозе,*
*Мой аварскі мюрыд.*

*Ты з пяром, ты без шаблі?*
*Вельмі рады страчаць.*
*У святой нашай саклі*
*Трэба песні гучаць.*

## Учарашняе

*Зямлю ўчарашнім сонцам не сагрэеш,*
*Як не напаліш печ былым агнём,*
*Ўчарашнім ветрам хмары не развееш.*
*Чаму жывём тады ўчарашнім днём?*

*Узрушваем былою грознай славай.*
*Былая зорка свеціць праз гады.*
*Былою выхваляемся дзяржавай,*
*А сённяшнюю дзенем мы куды?*

*Світанкі славіць вершамі не кіну*
*І месяц аддаю мінулым дням.*
*Сягоняшнюю ж песню і краіну*
*Нябёсам учарашнім не аддам.*

**З аварскай.**
**Пераклад Міхася ПАЗНЯКОВА**



Маладзічок

**Чытачы «Кніжнага свету» ўжо знаёмыя з Васількам, дзесяцігадовым хлопчыкам, які жыве ў XI стагоддзі ў старажытным горадзе Брачыслаўль. Пачатак гістарычнай аповесці археолага, кандыдата гістарычных навук Мікалая Плавінскага быў апублікаваны летась (гл. №№ 17, 31). Тады мы даведаліся, што Васілька — вельмі цікаўны хлопчык, ён любіць майстраваць дудачкі, практыкавацца са зброяй (яго бацька — дружыннік) і бясстрашна выпраўляецца ў падарожжы, каб даследаваць наваколле роднага горада. Ішоў час, у перапынках паміж раскопкамі і даследаваннем знойдзеных артэфактаў аўтар працягваў распавядаць пра новыя прыгоды з жыцця свайго героя. З імі сёння могуць пазнаёміцца і нашыя чытачы.**

# Новыя прыгоды Васількі



## НАВУКА

Як ні спяшаўся Васілька да Брачыслаўля з Дазорнай гары, прыбыць у час не паспеў. Добрую частку дарогі ён нават бег, але ўсё роўна моцна запазніўся. Калі нарэшце дабраўся да горада, прайшла цэлая гадзіна, як Жызнамір пачаў практыкаванні з іншымі хлопчыкамі. Стары сварыцца не стаў, а загадаў апрануць скураную куртку, узяць цяжкі дарослы шчыт і яго, Васількаву, суліцу ды прабегчы пяць разоў уздоўж усяго брачыслаўльскага вала, каб была яму навука на будучыню.

Васілька бег з апошніх сіл. Страшэнна хацелася спыніцца і ўпасці на зямлю. Але тады іншыя хлопцы пачалі б з яго смяяцца, а такога дапусціць нельга. І таму ён бег, бег… Калі Васілька дабягаў пятае кола, у горад уехаў яго бацька са спадарожнікамі. Бацька, здаецца, і не звярнуў увагі, але хлопчыку стала ніякавата ад аднаго яго позірку.

Нарэшце Васілька дабег да месца Жызнаміравых заняткаў. Зусім змoранаму, яму давялося ўзяць драўляны меч і працягнуць заняткі разам з іншымі вучнямі, нібы нічога да таго і не было.

Практыкаванні скончыліся. Васілька быў амаль нежывы і ледзь ішоў дадому. Ён нават не хацеў есці і думаў адразу легчы спаць, але… Бацька даведаўся пра яго вандроўку, і Васілька ўжо рыхтаваўся атрымаць рэменю. Але бацька прымусіў хлопчыка сто разоў адціснуцца ад зямлі.

І на заўтра выпрабаванні не скончыліся. Зранку ён мусіў ісці вучыцца пісанню і лічэнню. Заняткі ў царкве праводзіў айцец Лазар. Звычайна вучоба цягнулася гадзіны дзве. Вучні пісалі на адмысловых драўляных дошчачках, пакрытых воскам, пры дапамозе бронзавых палачак, у якіх адзін канец быў востры, другі — расплюшчаны. Вострым можна пісаць на воску, а пляскатым — разгладжваць напісанае.

Звычайна Васілька з радасцю хадзіў на заняткі да айца Лазара, бо яму падабалася пісаць і лічыць, у яго ўжо вельмі добра атрымлівалася складаць словы з асобных літар, ды і лічыў ён выдатна.

Але ў гэты дзень навука Васільку была не даспадобы, бо пасля таго, як для ўсіх заняткі скончыліся, айцец Лазар пакінуў яго і прымусіў яшчэ цэлыя тры гадзіны перапісваць малітвы з вялікай кнігі, сцірацб і перапісваць зноў. Справа гэтая засмучала, бо ўсе малітвы Васілька і так ведаў на памяць, а на вуліцы было такое цудоўнае надвор'е, і ўсе яго сябры, напэўна ж, гэты час бавілі ў гульнях. Але што зробіш, да малітвы нельга ставіцца непаважліва, а таму Васілька старанна выводзіў па воску літары, пакуль, нарэшце, айцец Лазар не адпусціў яго, наказаўшы, каб болей ён так далёка адзін і без бацькавага дазволу з Брачыслаўля не сыходзіў.

## ГАНЕЦ

Прайшло пяць дзён, як Васілька на сваю бяду выправіўся ў вандроўку на Дазорную гару. Балелі цягліцы рук і ног. Усё яшчэ адчувалася Жызнамірава і бацькава навука. Больш за тое, усе наступныя дні стары Жызнамір пасля агульных заняткаў, калі адпускаў іншых хлопчыкаў, прымушаў Васільку практыкавацца ў розных вайсковых майстэрствах. Вось і сёння, калі ўжо ўсе пайшлі дадому вячэраць, Васілька мусіў яшчэ амаль цэлую гадзіну практыкавацца ў спрытнасці. Жызнамір узяў доўгі дубец, даў хлопчыку шчыт і драўляны меч і прымусіў абараняцца. І хоць стары настаўнік быў кульгавы, аднарукі і аднавокі, Васільку так дасталася гэтым дубцом, што ў яго гарэлі рукі, плечы і ногі.

Але цешыла, што нарэшце з'явіўся вольны час і можна пагуляць з сябрамі. Гулялі ў біты. Біты робіцца з каленных костак розных буйных жывёл — коней, кароў ці свінняў. Знізу ў костцы робіцца паглыбленне, куды заліваецца свінец, каб біта была цяжэйшай. Сэнс гульні — збіць сваёй бітай як мага больш чужых. У Васількі была біта цяжкая і прыгожая: зверху ён выразаў сваё імя, каб раптам хто не падмяніў ці сцягнуў.

Сёння Васільку вельмі шанцавала ў гульні, усё ў яго атрымлівалася, таму ён так загуляўся, што ледзьве не прапусціў момант, калі ў браму Брачыслаўля ўехаў незнаёмы хлопец. З выгляду малады, але, мяркуючы па багатай вопратцы, аздобленым срэбнымі накладкамі пасе, на якім вісеў меч, і вельмі прыгожай аброці, таксама ўпрыгожанай накладкамі, быў ён ужо паважным дружыннікам, можа нават такім, як яго браты. На шыі ў хлопца вісела срэбная пласцінка са знакам князя Брачыслава. Варта, пабачыўшы княжацкі знак, прапусціла яго, і хлопец адразу скіраваўся да Васількавага дома, адкуль ужо выйшаў бацька.

Кінулі гульню і пабеглі глядзець на госця. Але далей за брамку двара ніхто зайсці не наважыўся, бо Васількавага бацьку хлопчыкі пабойваліся. Яны збіліся ў купку і здаля разглядалі збрую каня, на якім прыехаў дружыннік з Полацка. А Васілька, канечне ж, адразу забег у хату, каб паглядзець на нечаканага госця. Але шмат ён разгледзець не паспеў, бо, як толькі ганец напіўся вады, яны з Васількавым бацькам адразу пайшлі ў вялікі дом са святліцай, дзе засядалі брачыслаўльскія дружыннікі. Васілька зразумеў, што ганец прывёз з Полацка нейкія важныя навіны ці нават даручэнні ад самога князя Брачыслава.

Як жа хацелася трапіць у святліцу! Але Васілька добра ведаў — не атрымаецца, таму вярнуўся да гульні. Ды гуляць ніхто ўжо не хацеў — усе толькі і рабілі, што абмяркоўвалі вопратку і зброю полацкага дружынніка, яго каня, гадалі, чаму ж ён прыехаў у Брачыслаўль, якія навіны прывёз. У гэтых размовах і прайшла рэшта вечара, пакуль маці не паклікала іх вячэраць.

## НЕЧАКАНАЯ РАДАСЦЬ

Гэтым вечарам бацька вярнуўся дадому позна, калі ўжо зусім сцямнела. Вячэраць ён не стаў. Але сеў за стол, наліў сабе квасу і нечакана паклікаў Васільку, які ўжо амаль што лёг спаць. Бацька пасадзіў хлопчыка побач і раптам спытаў:

— Ну што, сынок, хочаш са мной у далёкую выправу?

Васілька настолькі здзівіўся, што спачатку не паверыў пачутаму. Толькі і змог вымавіць:

— Канечне хачу!

Бацька шырока ўсміхнуўся, зрабіў вялікі глыток квасу, выцер свае доўгія вусы і сказаў:

— Вось і добра, ты ў мяне ўжо зусім вялікі, таму час зведаць сапраўднае дружынніцкае жыццё. Паслязаўтра мы рушым у далёкую выправу на поўдзень. Можа, нават на цэлы месяц. Я сёння атрымаў загад ад князя Брачыслава.

Васілька быў проста ў захапленні і толькі і ўскрыкнуў:

— Выдатна!

Але тут з кута ад агменю загаварыла маці:

— Гасцята, ты што ж гэта? Ён жа яшчэ зусім маленькі! Куды ты яго хочаш браць, ды яшчэ так надоўга? Хай яшчэ падрасце.

Васілька абурыўся і хацеў адказаць маці, што ён ужо дарослы, але не паспеў, бо бацька сказаў свае слова першым:

— Не, жонка, яму трэба вучыцца. Час зараз мірны, небяспекі на шляхах няма, а для яго гэта будзе выдатным досведам. Я ўжо ўсё вырашыў.

Маці толькі глыбока ўздыхнула, але пярэчыць не змагла.

— А цяпер спаць! Заўтра будзе шмат турбот, — ускудлаціў Васількавы валасы бацька і задзьмуў лучыну над сталом.

Васілька хуценька лёг, але заснуць не змог. Яго распірала ад радасці, прадчування далёкай дарогі і сапраўдных дарослых прыгод.

Наступны дзень прамінуў у клопатах. Маці збірала ў дарогу ежу і неабходныя рэчы і ўсё бедавала, што рана малому кудысьці ехаць. Але Васілька ведаў, што бацька не перадумае нягледзячы ні на што.

З самага ранку Васілька дапамагаў бацьку і іншым дружыннікам рыхтаваць да выправы коней і рыштунак. Пасля бацька дазволіў яму пачысціць зброю і нават уласны меч! Нарэшце, хлопчык сабраў свае рэчы — вопратку, прысмакі ад маці. Агледзеў і пачысціў суліцу і невялічкую сякерку, якую даў бацька.

Пасля абеду хлопчык пабег на заняткі да Жызнаміра. У гэты дзень ён займаўся з патройнай ахвотай: раптам ужо заўтра давядзецца выкарыстоўваць ваярскую навуку на практыцы? А яшчэ яму было страшэнна прыемна бачыць, з якой зайздрасцю глядзяць іншыя хлопчыкі… І не дзіва: кожны з іх аддаў бы ўсё, каб апынуцца зараз на Васількавым месцы.

Увечары маці прыгатавала вельмі смачную вячэру і ўсё пераймалася, што Васільку не будзе чаго есці ў дарозе. Бацька толькі шырока пасміхаўся ў адказ. Пасля вячэры ён пайшоў праверыць, ці падрыхтавана ўсё да выправы, а таксама аддаць тым, хто застаецца ў Брачыслаўлі, апошнія загады на час сваёй адсутнасці.

Васілька разам з сястрычкай пайшлі спаць. Міласлава папрасіла, каб ён распавёў ёй нешта перад сном, і Васілька стаў пераказваць тую частку Святога Пісання, якую яны апошнім часам чыталі на ўроку ў айца Лазара. Сястрычка заснула хутка. А Васілька марыў да самага досвітку. Хоць ён і ведаў, што трэба выспацца і набрацца сіл перад дарогай. Але як заснуць, калі, як толькі заплюшчваеш вочы, пачынаюць мроіцца невядомыя лясныя сцежкі, рачныя броды, вёскі і гарады…

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**



*Малюнкі Кацярыны Фурс.*

# Графіка танца

**На выстаўцы «Другое трыенале графічнага дызайну», што экспанавалася ў Палацы мастацтва, было шмат работ, якія выканалі з дапамогай камп'ютарнай графікі студэнты і выкладчыкі Акадэміі мастацтваў — сучасны мастак, як і ўсе мы, існуе ва ўмовах постмадэрновай эклектыкі. Ці не самым інтрыгуючым «кадрам» выстаўкі стала работа Наталлі Коўш «Графіка танца. Surpointes…».**



У танца і жывапісу — асаблівыя стасункі. Перадусім згадваецца знакаміты цыкл Эдгара Дэга, ягоныя непаўторныя танцоўшчыцы. Але ж у сучасным мастацтве ўсё часцей вызначальнымі становяцца не сюжэт і не форма, а сродкі і тэхналогія ўвасаблення падзеі. «Графіка танца. Surpointes…» выкананая не традыцыйнымі пэндзлем і фарбамі, а пры дапамозе пуантаў і чорнай фарбы. Чаму? Справа ў тым, што Наталля Коўш не толькі загадчык кафедры графічнага дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і мастак, але і прафесійная балерына. Гутарка з ёю атрымалася не менш інтрыгуючай, чым сам твор.

**— Пэўна, балет і выяўленчае мастацтва для вас як два крылы… Як такія розныя, на першы погляд, віды мастацтва знайшлі творчы кампраміс?**

— Балетам я пачала займацца, калі абрала для сябе харэаграфічны каледж, а паступаюць туды звычайна пасля 4 класа, у 10 гадоў. Адвучылася, скончыла з чырвоным дыпломам, пайшла працаваць у Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі, а потым працавала ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры. Месца працы змяніла з нагоды паступлення ў Акадэмію мастацтваў.

А маляваць я любіла заўсёды. Працуючы ў тэатры оперы і балета, займалася жывапісам у Вячаслава Паўлаўца ў якасці хобі, але, мяркую, гэта падштурхнула атрымаць акадэмічную адукацыю. Так склаліся абставіны, што падчас сумяшчэння сур'ёзнай працы і навучання я атрымала траўму, таму пасля сканчэння БДАМ стала выкладчыкам у акадэміі, а праз некалькі гадоў мне прапанавалі пасаду загадчыка кафедры графічнага дызайну.

**— Займацца балетам і маляваць — гэта воля сэрца ці бацькоў?**

— Бацькі вельмі талерантна ставіліся да маіх творчых эксперыментаў, даючы права выбару. Памятаю, прыйшлі да нас у школу выкладчыкі з харэаграфічнага каледжа, каб арганізаваць прагляд, і неўзабаве я атрымала паперу, што магу паступаць. Вялікай ахвоты змяніць школу, шчыра кажучы, не было, мне падабаўся мой клас. Але бацька падтрымаў, павёў мяне на іспыты. Даволі лёгка я прайшла ўсе этапы. Памятаю, хтосьці плакаў, хтосьці радаваўся — я ж зразумела, што балет мне падабаецца, калі пачала гэтым жыць. Другая прафесія — таксама мой выбар.

**— Ваша работа «Графіка танца» вельмі цікавая, незвычайная. Як прыйшлі да такой ідэі — маляваць пры дапамозе пуантаў?**

— Адна з адметных рыс нашага часу — візуальнасць, яе семантычная накіраванасць. Цяпер я пішу дысертацыю, звязаную з фатаграфіяй і графічным дызайнам. Я даследую фатаграфію як знак, у прыватнасці знак-індэкс і знак-ікону. У сваю чаргу, знак-індэкс — гэта «адбітак», «след», імпрэсіяністычны па сваёй сутнасці. Усе гэтыя думкі падштурхнулі да стварэння праекта.

Ідэя з'явілася раптоўна, я працавала вельмі хутка (літаральна тыдзень), але праект яшчэ не скончаны. Гэта быў толькі пачатак, эксперымент. Справа ў тым, што пластыка, якую ты паказваеш у танцы, на паперы іншая. Ты толькі ўяўляеш прыгожыя вобразы, уяўляеш, як суцэльная праекцыя малюнка танца на сцэне будзе «перакладацца» ў той ці іншы пластычны малюнак на паперы. Але насамрэч усё адбываецца інакш, чым здаецца на першы погляд. Праект займее працяг, пакуль не буду казаць, які.

**— Кожная праца — штораз новая кампазіцыя ці гэта адзін цэласны танец?**

— З вялікага «танцавальнага палатна» былі абраныя толькі фрагменты. Але першапачаткова задумвалася прадставіць арыгінальны аркуш паперы з адбіткамі пуантаў. Верагодна, праз некаторы час будуць прадстаўленыя першапачатковыя малюнкі.

Заўсёды хочацца зрабіць працу выключнай якасці і дасканаласці. Але ці магчымая дасканаласць, калі гэта толькі асобныя фрагменты танца? Зразумела, што стварэнню прац спадарожнічаў мой настрой, музычныя фрагменты альбо пластыка асобных балетных па. Увогуле, гэта быў маленькі глыток паветра, адзін дзень творчасці і імправізацыі.

**Анастасія КАПЦАВА**

# Рэнтген на чалавечнасць

**Творчая сустрэча з мастаком Аляксандрам Салівончыкам адбылася 13 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Аўтар выстаўкі «Партрэт сучасніка», якая атрымала шырокі рэзананс і добрыя водгукі ў свеце беларускага жывапісу, распавёў пра свой творчы досвед, падарожжа па свеце і магію вялікіх палотнаў. Аляксандр Салівончык шчыра прызнаўся: «Нягледзячы на тое, што жыву ў Германіі, лічу сябе беларускім мастаком і ганаруся гэтым!». Праўда, менавіта радзіма Альбрэхта Дзюрэра і Герхарда Рыхтэра разняволіла яго, натхніўшы на стварэнне карцін вышынёй у некалькі метраў. Сваю прамову майстар пачаў з аповеду пра студэнцкія 80-я, надзвычай цікавы, але няпросты час вучобы — спачатку ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава, потым у Санкт-Пецярбургу і, нарэшце, на факультэце кніжнай графікі Маскоўскага паліграфічнага інстытута.**



### МЯТЛА ЗАМЕСТ ФАРБАЎ І МАСКОЎСКАЯ АЎРА

Кожны дзень — у «завірусе» творчасці. Капуснікі пры школе-студыі маскоўскага Мастацкага тэатра, лепшыя месцы падчас спектакляў, «тусоўкі» з сябрамі-мастакамі і акцёрамі, бяссонныя ночы, рамантыка і мора ўражанняў. Праўда, працаваць даводзілася шмат, прычым і качагарам, і дворнікам. «Сляды вугалю на твары і руках трымалі мяне «ў вобразе», я быў падобны, як і марыў, да апантанага справай майстра пэндзля і фарбаў», — смяецца Аляксандр Салівончык.

Як ён усё паспяваў? Яшчэ і ў Мінск ездзіў, у майстэрню свайго найлепшага настаўніка, Алега Луцэвіча. «Калі я пісаў чарговую карціну, думаў: як ён, мой педагог, успрыме яе? Алег Яўгенавіч быў вельмі строгі, але вучыў нас, пачаткоўцаў, імкнуцца толькі да поспеху, баяўся, каб мы не растрацілі талент, не размянялі яго», — адзначыў Аляксандр Салівончык.

Працуючы дворнікам у Маскве, дарэчы, малады чалавек не сумаваў: пакой у камуналцы далі на Кузнецкім мосце, за сто метраў ад Крамля. А вось паступіўшы на службу ў прэстыжнае выдавецтва, Аляксандр замаркоціўся. «Мне было цяжка проста так сядзець на месцы, падлічваць штосьці — нецікава. Я глядзеў у акно і ўяўляў сябе ў турме. Пакуль не адважыўся на адну авантуру…».

### ПАМЯТКА АВАНТУРЫСТА, ЦІ З ГАЛАВОЙ У ВАНДРОЎКІ

Аднойчы ён не вытрымаў і проста сышоў у прагул ... на месяц. Каб ужо дакладна звольнілі. Паехаў на поўдзень, да мора. Калі вярнуўся на працу, прыгожы і загарэлы, усе былі ў шоку. Натуральна, разбіраліся. «Спачатку мне хацелі зрабіць вымову, маўляў, хлопец добры, проста малада, «спатыкнуўся». Але я ўстаў і ўзмаліўся: «Дзеля Бога, толькі звольніце, калі ласка, інакш я больш не змагу!» — узгадаў Аляксандр Салівончык.

З'ехаўшы ў родны Кобрын, мастак стаў уладкоўваць дзіцячыя садкі, займаўся разьбой, узводзіў атракцыёны для малых, радаваўся, калі яны ўсміхаліся (да ўсяго — няхкепскі прыбытак). А тут цётка даслала запрашэнне... з Амерыкі. На двары стаяў 1991 год, час перамен. Разам з братам майстар адважыўся на падарожжа: спачатку — Канада, потым —Нью-Ёрк і Чыкага. «Новы год сустракалі ў самалёце, прама над безданню, сярод цемры. Прыехаўшы, абмянялі дзвесце пяцьдзясят рублёў на трыста долараў і марылі пражыць на гэтыя грошы некалькі месяцаў... З працай не адразу задалося, але без яе ў Штатах рабіць няма чаго. Дапамог шчаслівы выпадак.

### «І НАС, БЕЛАРУСАЎ, АД УСЁЙ ДУШЫ ПАЛЮБІЛІ!»

«Мы з братам даведаліся, што ў Чыкага ёсць руская праваслаўная царква і накіраваліся туды на богаслужэнне. Пасля, па традыцыі, сярод прыхаджан ладзілася сяброўская частаванні з гарбатай. Там з землякамі і пазнаёміліся. І нас, беларусаў, ад усёй душы палюбілі! На цэлы год. Мы былі першымі «ластаўкамі», якія трапілі да тых, хто ўжо пяцьдзясят гадоў не бачыў радзімы, з'ехаўшы падчас Другой сусветнай вайны», — адзначыў жывапісец.

Так Аляксандр Салівончык стаў займацца рэстаўрацыяй абразоў, стварэннем копій ікон. Вярнуўшыся ў Беларусь, вырашыў пабудаваць свой дом у Кобрыне, адпрэчваючы сталічную мітусню і кватэрныя «мурашнікі». Але на месцы яму не сядзелася. Вырашыў пад сорак гадоў зноў стаць студэнтам!

Наступным пунктам прызначэння ў біяграфіі Аляксандра Салівончыка стаў нямецкі горад Франкфурт-на-Майне, а менавіта — яго мастацкі інстытут пад назвай «Штэдэль», дзе не было абмежаванняў па ўзросце. Менавіта там мастак зняў для сябе ўсе рамкі ў творчасці і захапіўся карцінамі нязвыклага, пашыранага памеру.

### ПРАРОКІ НА МЯЖЫ

Карціны мастака, якія ўвайшлі ў экспазіцыю «Партрэт сучасніка», здзіўляюць перадусім экспрэсіяй, але не крыклівай, жыццёвай. «Я ніколі не пакутаваў любоўю да знешняй абалонкі, не жадаў імгнення ўразіць гледача. Вялікае мастацтва павінна трапляць у свядомасць паступова, без яўнага эпатажу. Таму вялікія фарматы палотнаў я імкнуўся напоўніць зместам, каб яны казалі пра вечнае, значнае для ўсіх людзей», — адзначыў майстар.

Галоўнае ва ўсіх яго работах — вочы. Стомленыя, хітрыя, светлыя, поўныя болю, адчаю ці надзеі... Людзі, якіх адлюстроўваў мастак, — сярод нас, проста мы стараемся іх не бачыць. Гэта тыя, хто згубіў дом, трапіўшы на вуліцу, ці не зведаў любові блізкіх, апынуўшыся ў доме састарэлых, а можа, у іншым палоне — наркотыкаў ці алкаголю. Мастак звярнуў увагу на людзей, якіх абмінаюць. Збольшага гэта старыя — з аднаго боку, бездапаможныя, істоты на мяжы, а з іншага — мудрацы, прарокі. Вобразы зборныя, і ў той жа час індывідуальныя. Што гэта: выклік, урок пра тое, што можа адбыцца, калі павярнуць не туды на дарозе жыцця, ці проста крык аб дапамозе?

«Мае карціны — проста адбіткі сучаснасці. Я не пішу насупраць палотнаў «не чапаць рукамі!» Я сам іх спакойна перакладаю, вешаю, магу нават пастукаць па іх, не баючыся, што адламаецца кавалак з фарбай. Мне здаецца, тое, што вы бачыце на іх, — пасуе нашаму крыху вар'яцкаму, імкліваму часу», — падвёў вынік Аляксандр Салівончык.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**





**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

**Рычард Бялячыц — настаўнік, краязнаўца, паэт.**
**Амаль выпадкова на самым ускрайку Беларусі (беларуска-літоўскае памежжа) пачаў запісваць «для чаго-небудзь» цікавыя выслоўі, паданні і легенды, тапанімічныя звесткі дый проста назіранні. Жывучы на радзіме ракі Котра, якая пад Гроднам злучаецца з Нёманам, сабраў цікавы матэрыял па гісторыі гэтага краю. Так з'явілася першая частка будучай кнігі. Але ж далей па Котры былі славутыя Бершты з былой каралеўскай рэзідэнцыяй для адпачынку вяльмож на азёрах мясцовай пушчы — і нарадзілася другая частка выдання. Тут ужо грэх прапусціць падарожжа па Нёмане. Пачутае, убачанае і знойдзенае стала трэцяй часткай — пра Скідзельскі край.**
**І ў 2013 годзе тапанімічны аповед выйшаў у мінскім «Кнігазборы». Што павучальна для іншых даследчыкаў: такім чынам можна захаваць мінулае кожнага кутка малой радзімы праз аповеды старажылаў, паданні і легенды. Прапануем увазе чытачоў «ЛіМа» ўрывак з кнігі «Котранскі нераст».**

Фота з сайта foto-planeta.com.

Рака Котра ў Шчучынскім раёне.

# Вяртанне да берагоў

У розныя часы ў розных мясцінах па-рознаму называліся прыкотранскія лясы: Берштаўская пушча, Руская, Старая, Забалацкая. Адно праўда: тут раслі магутныя, спрадвечныя дрэвы, даючы прытулак як зверу і птушцы, так і чалавеку. Узгоркі чаргаваліся з топкімі, нярэдка непраходнымі балотамі. У мірны час лясы берaглі спакой, надавалі ўпэўненасці і, наадварот, у вайну ды гістарычныя перавароты наводзілі жах і смуту на ўсё жывое. Котра ўсё зведала, бо калі яна нарадзілася на свет, ніхто не помніць, ведаць не ведае. На сёння яе крынічны выток струменіць на сумежжы Беларусі і Літвы. У балотах ёсць, напэўна, невысокі пук, адкуль адна крыніца пусцілася ў наш бок і стала з цягам часу ракой Котрай. Другая крыніца зажурчала ў супрацьлеглы бок, дабегла да рэчкі Драціліха, што цячэ з Варанаўскага раёна ў літоўскую Улу.

Як усе рэкі, Котра напачатку жыве звычайным ручайком. Ля сваёй аднаіменнай вёскі, якая цяпер за мяжой, яна пасталелая, нават рыбная. Яшчэ колькі гадоў назад літоўцы і беларусы сядзелі на берагах з вудачкамі і, што ўтойваць, разам хадзілі па вадзе з брэднем. Потым усё часцей над рэчкай пачалі з'яўляцца памежныя верталёты. Цяпер тут праходзіць пяцісотметровая памежная паласа, і ходу да рэчкі практычна няма.

Каля спаленых вайной Агародзішчаў рака заплывае на наш бок, агінае ражок зямлі, той узгорак, дзе расстраляныя і засыпаныя амаль паўтары сотні людзей. Не змаглі яны адгарадзіцца ад чорнай навалы ні ракой, ні думкамі. На дзень Перамогі, у іншыя трагічныя юбілеі сюды ў суправаджэнні памежнікаў прыязджаюць родныя і блізкія загінуўшых, школьнікі, госці. Раней ад пасляваеннага часу цягнуўся праз Котру драўляны масток з парэнчамі, было нават небяспечна для пажылых людзей пераходзіць да помніка. Цяпер надоўга збудавалі жалезны мост, каб і машынай можна было даехаць.

Котра бяжыць да нас па Чорнай Русі, па Вялікім Княстве Літоўскім, напэўна, ад балцкіх плямёнаў ці яшчэ з глыбейшай далечыні. І чаму так яна называецца — невядома, але школьнікам і дарослым падабаецца адна легенда. Быццам даўным-даўно ў дзікай лясной коткі прапаў верны і надзейны кот. Можа, звлудзіў у глухамані, можа, ваўкі ці рысі задралі. Людзі доўгі час чулі, як па лесе, узлоўж ракі разносілася жалобнае «мяў», «мяяў», «мя-я-яў…», перарастаючы ў роспачнае, адчайнае, надрыўнае «ра», «ра-а», «ра-а-а…». Так і спалучылася ў назву «кот» і «ра».

А рака бяжыць на паўднёвы захад. І гаворыць, расказвае без супынку. Пра тое, напрыклад, што ў кнізе «Памяць. Шчучынскі раён» на карце вёскі Зубрава няма, а ў спісе населеных пунктаў Першамайскага сельсавета ў той жа кнізе такая вёска значыцца. Ды і як ёй не значыцца, калі і цяпер жывуць тры яе жыхары ў двух хатках сярод лесу. Жывуць не тужаць, нават выбіраюць сабе ўладу, калі прыязджаюць сюды з Матылёў члены выбарчай камісіі з урнай у руках. Праўда, ад электрычнага святла і радыё дзве бабулі і адзін дзядуля катэгарычна адмаўляюцца — не па іх статусе.

Калісьці Зубрава было не менш багатым на падзеі, чым Казлішка. Туды таксама пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны дацягнулі вузкакалейку, нарыхтоўвалі і вывозілі лес. Нават некалькі адгалінаванняў цягнулася ад «жалезкі». Тут жа, у Зубрава, месцілася яшчэ адно лясніцтва. Для замясцянскіх, куляшоўскіх людзей тут былі і праца, і адпачынак. Жыццё набыло такі размах, што, кажуць, на працу прыязджалі мужыкі аж з-пад Воранава. Маліцца, праўда, хадзілі ў Сабакінцы (цяпер Першамайск), па розныя паперкі — туды ж, у гміну. Астатняе было ўсё сваё сярод лесу і цяжкапраходных балот.

Расла на берагах Котры трава зуброўка. Калі перацвіце, сушылі, і станавілася яна духмянай, пахучай. На ёй настойвалі лекі, пітво для ўзбуджэння апетыту, для лячэння страўніка. А найчасцей паны ёй карысталіся пры вырабе лікёра-гарэлачных напояў, сялянства — для больш простых настоек. Сучасная «Зуброўка» таксама мае поспех на свяце. Можа, таму вёска — Зубрава? Маглі ў далёкія часы заходзіць у пушчу і зубры. Бо некаторыя крыніцы ўпамінаюць, што вольныя статкі зубра еўрапейскага вадзіліся ў сумежных беларускіх і літоўскіх лясах.

«Энцыклапедыя прыроды Беларусі» 1983 года згадвае Зубраўскае возера ў Шчучынскім раёне, у басейне ракі Котра: «Невялікае па памерах, упадае ў яго звычайны канал, выцякае ручай у раку Котра». Чым не падстава для назвы вёскі, хоць тутэйшыя людзі пра яго не ведаюць, ды і самая свежая энцыклапедыя не піша? Можа, высахла, зарасла без вады, пушчанай па каналах.

**Рычард БЯЛЯЧЫЦ**

# Праз галінку дрэва



*Работа Віталя Раковіча.*

Вось ужо другі падарунак робіць музею Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі (Смаргонскі раён) мінскі фотамастак Віталь Раковіч. Гэта выстаўка мастацкіх фатаграфій «Веснавы паланэз». Папярэдняя мела назву «Зімовы паланэз», а дзве наступныя будуць прысвечаныя іншым парабінам. Дакладней, прыгажосці сядзібы ў розныя поры года.

Прафесійнае вока фотамастака заўважае ў звыклых прадметах і краявідах новыя рысы, прымушае спыніцца ля кожнай работы. Асаблівa глыбокае ўражанне ад выстаўкі — у суправаджэнні мелодыі паланэза М. К. Агінскага «Развітанне з Радзімай». Каб перадаць гледачу сваё захапленне Залессем, Віталь выкарыстоўвае прыёмы і цікавыя ракурсы. Здымкі здзіўляюць дэталёвасцю (прыкладам, лірычны прыём — «позірк на затуманены палац Міхала Клеафаса праз зялёную галінку веснавога дрэва»).

Віталь Раковіч — пераможца і прызёр многіх беларускіх і міжнародных конкурсаў, арганізатар фатаграфічных мерапрыемстваў, член праўлення Саюза фотамастакоў Беларусі і ўдзельнік беларускага мастацкага аб'яднання «Фотамастацтва». Яго працы захоўваюцца ў калекцыях Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, Дамах Беларусі ў Варшаве і Маскве. Некалькі работ з гэтай выстаўкі паедуць у Парыж падчас святкавання 250-годдзя з дня нараджэння Агінскага.

За апошнія гады Віталь Раковіч сабраў вялікую калькасць унікальных фотаматэрыялаў па палацава-замкавай і храмавай архітэктуры Беларусі, сярод яго здабыткаў — шыкоўны фотаальбом «Кніга касцёлаў Беларусі» і турыстычныя даведнікі па гістарычных мясцінах Беларусі, у тым ліку і па залескай сядзібе.

Музей-сядзіба Міхала Клеафаса Агінскага, паводле задумы стваральнікаў, павінна стаць цэнтрам творчых і мастацкіх сіл нашай краіны, абмену творчымі ідэямі. Добрая прыкмета, што на гэты заклік першымі адгукаюцца мінчане.

**Таццяна КЛЯШЧОНАК**

# Аршанскі відэалетапіс

**«Дзівакі, вандроўнікі і паэты — гэта водар жыцця і яго яснацвет...» — гаварыў Уладзімір Караткевіч. З неўтаймаванай вынаходлівасцю прагнуць новага, рызыкі і паходнага братэрства. Сярод такіх — аршанец Эдуард Навагонскі. Вось ужо каля 20 гадоў ён займаецца відэаздымкамі.**

Шмат шчырых слоў пра Эдуарда могуць распавесці яго сябры па шматлікіх паходах і вандроўках (пешых, водных і горных) па роднай Беларусі, Украіне, Сярэдняй Азіі, па неабсяжнай Расіі. Нядаўна ён зрабіў ім шыкоўны падарунак — зманціраваў некалькі фільмаў (агульнай працягласцю ў 7 гадзін!), прысвечаных развіццю турызму ў Оршы. Заўсёды ў падарожжах з ім быў фотаапарат, а пазней кіна- і, нарэшце, відэакамера. З апошняй Э. Навагонскі, відаць, «зросся» назаўсёды. Яго фотаздымкі друкаваліся некалі ў саюзных і рэспубліканскіх часопісах, змяшчаліся на насценных календарах. Яшчэ ў 1980-я гады ён стаў лаўрэатам усесаюзных фотаконкурсаў «АСАФОТА» і «Айчына».

За больш як 40 гадоў Эдуард Навагонскі зняў каля 400 відэафільмаў і сюжэтаў пра наш горад і яго наваколле, турызм і прыроду. Героямі яго стужак сталі многія знакамітыя аршанцы: ветэраны вайны і працы, славутыя працаўнікі, людзі творчых прафесій. Сярод іх — Герой Савецкага Саюза лётчык Анатоль Сaлянікаў, Герой Сацыялістычнай Працы Анатоль Андрэеў, народны мастак Беларусі Віктар Грамыка, заслужаны настаўнік Беларусі Марыя Федзяцова, выдатная мастачка Валянціна Янкоўская... Фільмы (а да некаторых аўтар гэтых радкоў спрычыніўся як сцэнарыст) ужо склалі своеасаблівы відэалетапіс аршанскай гісторыі і культуры. Фільмы Э. Навагонскага дэманстраваліся па беларускім тэлебачанні ў праграмах «Вецер вандраванняў», «Беларускі дом», «Землякі».

Плён працы Эдуарда Эдуардавіча зафіксаваны на 2 дысках — 42 кліпы з песнямі пра Оршу і 42 відэасюжэты з гісторыі і культуры горада ў паэтычным слове аршанскага паэта і мастака Уладзіміра Жытнова.

Адзнака таленту творцы — Гран-пры Міжнароднага конкурсу відэафільмаў, прысвечанага 55-годдзю Вялікай Перамогі, за 10-мінутную стужку пра маладзёжны пошукавы клуб «Русічы».

Заўважны ўнёсак Э. Навагонскага і ў краязнаўства Аршаншчыны. Адным з першых ён паспрабаваў абгрунтаваць гіпотэзу пра фіна-ўгорскае паходжанне назвы Орша. І не толькі напісаў пра гэта, але і праплыў з сябрамі ад Оршы Віцебскай да Оршы Пскоўскай. Цяпер ён заняты фільмам, які прысвечаны славутаму земляку, вядомаму беларускаму жывапісцу, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны Мікалаю Палянкову.

**Віктар ЛЮТЫНСКІ**

# «Пружанскі палацык» і яго таямніцы

**Сярод старых клёнаў і вязаў, у ціхім пружанскім парку, за белай брамай стаіць будынак, што схаваўся хутчэй наўмысна, каб не кідацца ў вочы сваім дзіўнаватым выглядам. Дом, які прываблівае мінакоў, нібы складзены з розных па форме і абліччы будынкаў. Ён настолькі непадобны да іншых у Пружанах, што хутка ўзнікае цікавасць: хто будаваў яго, каму ён належаў, сведкам якіх старонак мінуўшчыны з'яўляецца?**


Фота з сайта tour.brest.by.

Сапраўдная жамчужына ўкладзеная ў рамантычную канву парку: двухпавярховы корпус з вежай, вялікімі венецыянскімі вокнамі, доўгім балконам на другім паверсе наводзіць на думку пра шляхетнасць і заможнасць уладальнікаў.

Музей-сядзіба «Пружанскі палацык» быў пабудаваны больш як паўтара стагоддзя таму ў рэзідэнцыі пружанскага маршалка Валенція Швыкоўскага.

Да ўвахода ў палацык вядуць вялікія прыступкі. Заходжу ў вялікі пакой на першым паверсе. Высокія столі, сцены, дзверы, вокны… У часы Швыкоўскіх выгляду гэтай залы надавалася асаблівая ўвага. Кожная дэталь інтэр'еру старанна абдумвалася, каб абстаноўка дэманстравала шляхетнасць, багацце, погляды і густы ўладальнікаў.

Каля вялікага акна — чорны раяль, з-пад клавіш якога, напэўна, калісьці ліліся гукі цудоўнай музыкі Шуберта, Шапэна, Моцарта і Агінскага. У гэтым салоне збіраліся госці — знатныя асобы, сябры, якія часта наведвалі Швыкоўскіх. Кажуць, гаспадары былі вядомы сваёй гасціннасцю. Ад лёгкага рыпення масніц, якія, мабыць, яшчэ памятаюць шыкоўна апранутых гасцей, што плаўна рухаліся па зале ў рытме паланэза, патыхае таямнічасцю. У палацыку збіралася ўся краса тагачаснай інтэлігенцыі: славуты «бацька польскага рамана» Юзаф Ігнацы Крашэўскі (ён, дарэчы, часта заседжваўся ў бібліятэцы Швыкоўскіх), мастак Напалеон Орда, якога, напэўна, найболей натхняла прасторная тэраса, даследчык этнаграфіі і фальклору Міхал Федароўскі, што любіў гутарыць са служкамі і батракамі, запісваючы іх напевы і цікавыя расповеды…

А вось і маленькі ціхі пакойчык, аддзелены ад галоўнага пакоя прыгожымі аркамі. Праз яго вялікія вокны адкрываецца від на парк. А пакойчык гэты — тая самая кветкавая зала, куды з вядомай на ўсю краіну аранжарэі (нават у Радзівілаў такой не было!), што месцілася па суседстве, прыносілі расліны і кветкі незвычайнай прыгажосці. «У доме цёпла і ўтульна. На дварэ Сібір, а ў нас — мноства кветак», — хвалілася сябрам Гермінія Швыкоўская.

Гэтая зала канцэнтравала ў сабе ўзнёслае зачараванне прыродай і магла нагадваць сам парк. У паветры лунаў водар экзатычных раслін і апельсінавых дрэў.

Пра што ж гутарылі ды марылі гаспадары і госці? Напэўна, абмяркоўвалі пытанні літаратуры, бо чытанне было любімай справай і займала значнае месца ў жыцці сям'і. Магчыма, мужчыны вялі размовы пра палітыку, а жанчыны — пра навінкі моды…

Паварочваю ў наступную залу. Паводле дакументаў, тут знаходзілася сталовая гаспадароў. Каля сцяны стаяла круглая галандская печ з белай цэглы, пасярэдзіне — вялікі стол з крэсламі, буфеты з парцалянавым і срэбным посудам. Праз акенца кухар падаваў стравы.

Трапляю ў спальню Гермініі. Чатыры цагляныя слупы, упрыгожаныя зверху гіпсавым дэкорам, дзеляць яе на дзве часткі. Калісьці ў адной з іх, у альковe, стаяў ложак пані…

Падымаюся па вітой лесвіцы на другі паверх, крочу далей — і чую пах кавы ды гарачага шакаладу. У гэтай зале калісьці частавалі экзатычнымі ўсходнімі прысмакамі. А на трэцім паверсе месціўся рабочы кабінет Валенція Швыкоўскага. Выглядаў пакой вельмі сціпла, але тут было ўсё неабходнае для працы. Гаспадар, чалавек адукаваны, цікавіўся ўсімі навінкамі навукі і тэхнікі. Тут знаходзілася і бібліятэка, якая налічвала шмат выданняў на польскай, французскай, нямецкай, рускай мовах.

Усяго ў асабняку каля 40 пакояў, уключаючы падсобкі, каморы і сутарэнні. Прах яго першых гаспадароў — тут, у роднай пружанскай зямлі. Мабыць, і сёння над палацыкам лунаюць іх душы. А ў будынку працягваецца жыццё.

**Валянціна НЯДЗЕЛЬКА,**
**навуковы супрацоўнік музея-сядзібы «Пружанскі палацык»**

# Беластволыя нявесты ў Самары


*Жаніх пракладае дарогу да каханай.*

У самым сэрцы Расіі, на волжскіх берагах, самарскія беларусы ініцыявалі незабыўную падзею з нацыянальным каларытам. Нагода для гэтага — шлюб кіраўніка маладзевага аддзялення Самарскай абласной грамадскай арганізацыі (САГА) беларусаў «Руска-Беларускае Братэрства 2000» Юліі Цяплянскай і намесніка кіраўніка Георгія Курмакова.

Прэзідэнт арганізацыі самарскіх беларусаў Ірына Глуская ўжо даўно выношвала ідэю правесці ў Самары традыцыйнае беларускае вяселле.

Жаніху і нявесце ідэя спадабалася, бацькам маладых таксама. Падтрымку атрымалі і з боку Дома дружбы народаў Самарскай вобласці і яго дырэктара Ігара Бурава, які запрасіў да рэалізацыі гэтай ініцыятывы сваю жонку Юлію, загадчыцу ЗАГСам Самарскага раёна гарадской акругі Самара. Яна ўзяла на сябе ўсе клопаты па правядзенні вясельнага абраду пры афіцыйнай рэгістрацыі шлюбу.

Апранутыя ў нацыянальныя беларускія строі Юлія і Георгій сталі ўвасабленнем прыгажосці, элегантнасці, душэўнай чысціні і гармоніі. Пра гэта, не хаваючы захаплення, казалі і шматлікія госці, і звычайныя гледачы, якія прыйшлі паглядзець на нязвыклую для самарскага рэгіёна дзею.

Многім запомніўся вельмі эмацыянальны абрад выкупу нявесты — тэатралізаванае прадстаўленне, якое патрабуе ад жаніха не толькі цярпення, вытрымкі, але і пэўных фізічных намаганняў, і, вядома, матэрыяльных выдаткаў.

Быў і вясельны каравай. У даўнія часы пышны каравай, які па форме нагадваў сонца, лічыўся наймагутнейшым абярэгам новай сям'і. Не абышлося і без абрадаў, накіраваных на дабрабыт. Былі на вяселлі і нацыянальныя танцы, і беларускія вясельныя песні ў выкананні вакальнага ансамбля «Каданс» абласной арганізацыі беларусаў.

Зарадзілася і новая традыцыя: маладыя пасадзілі бярозку каля дома Дружбы народаў. Было вырашана, што з гэтага дрэўца пачнецца алея беластволых прыгажунь, якія будуць высаджваць маладыя з іншых нацыянальных аб'яднанняў Самарскай вобласці падчас вясельных урачыстасцей.

**Мікалай БОЙКА,**
**фота аўтара**

# Вачыма мастака

Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» запрашае на выстаўку «Стары Курск у акварэлях І. І. Лікоранкі».

Буйны эканамічны і культурны цэнтр Расіі, Курск — горад-пабрацім Гомеля ў сферы бізнесу, культуры, турызму. Багатае гістарычнае мінулае Курска захавалася не толькі на старонках пісьмовых крыніц і ў археалагічных старажытнасцях. Яно — у архітэктуры старых будынкаў, у кварталах і вулачках, якія з'яўляюцца яго жывой гісторыяй.

Выстаўка прапануе наведвальнікам паглядзець на горад вачыма мастака, які вельмі яго любіў. Сапраўдны летапісец з алоўкам і пэндзлем у руках, І. Лікоранка прайшоў старымі вулачкамі Курска і захаваў храмы і дамы, заводы і тэатры, сады і трыумфальныя аркі. Яго спадчына — больш як 500 малюнкаў, якія былі перададзеныя ў Курскі абласны краязнаўчы музей. Супрацоўнікі ўстановы прадставілі 40 копій для экспанавання ў палацы. Для гамяльчан экспазіцыя — яшчэ адно звяно, якое дапамагае стварыць вобраз горада-пабрацiма, паказвае яго гісторыю і традыцыі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*За падзеяй*

# Розніца — у стагоддзе

Мерапрыемствы, прысвечаныя памяці рускага паэта Аляксандра Блока і даследчыка палескага перыяду яго творчасці пісьменніка-земляка Мікалая Калінковіча, у 25-ы раз прайшлі ў Лунінецкім раёне.

На дызель-цягніку пінчане здзейснілі з Лунінца амаль той жа шлях, што ў 1916-м ажыццявіў Аляксандр Блок. На станцыі, увекавечанай вялікім рускім паэтам у адным са сваіх лістоў («У першы раз сышоў з цягніка ў Лоўчы ў спякотны ліпеньскі дзень…»), убачылі гэтыя словы на мармуровай дошцы. Шкада, што сам гістарычны будынак у 1980-я быў знесены. Удзельнікі адзначалі падобнае — з розніцай у стагоддзе — надвор'е, чыталі вершы, якія гучалі вельмі сучасна, як і належыць сапраўдным класіцы.

Мікалай Калінковіч нарадзіўся на галоўнай вуліцы в. Цна — 17-га Верасня. Тут жа пражывае сям'я Несцяровічаў. Гаспадыня Ганна Якімаўна паказала фотаздымкі, якія сталі сямейнай рэліквіяй, з адлюстраваннем II Міжнароднага літаратурнага свята памяці. Летам 1992 года цянянцы віталі беларускіх і ўкраінскіх журналістаў ды паэтаў, а сустрэчу арганізавала раённая газета «Лунінецкія навіны».

Цікавыя ўспаміны першай настаўніцы М. Калінковіча Аляксандры Майсак:

— Ён быў незвычайным вучнем. Як цяпер бачу: сядзіць на другой парце ад стала, ловіць кожнае слова. Таварыскі, добразычлівы, меў многа сяброў. Вяскоўцаў іншы раз на бацькоўскі сход не дачакаешся — вельмі занятыя. А вось бацькі Колі самі заходзілі ў школу, цікавіліся вучобай і паводзінамі сына.

Сёлета дзень памяці правялі разам з юнымі пінчанамі і педагогам-псіхолагам СШ № 18 г. Пінска Ганнай Свірыдэнка. Госці ўсклалі кветкі да помніка Мікалаю Калінковічу ў Лунінцы, узведзеным у 2001-м на дабрачынныя сродкі. Помнік усталяваны каля бібліятэкі, якая, магчыма, стане насіць імя пісьменніка-земляка.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

# Філасофія гохуа

**Выстаўка традыцыйнага кітайскага жывапісу, арганізаваная ў межах культурнага супрацоўніцтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў з Ханьданьскім універсітэтам, адкрытая для наведвальнікаў у мастацкай галерэі «Універсітэт культуры».**

У экспазіцыі прадстаўлены творчыя работы студэнтаў і выкладчыкаў Ханьданьскага ўніверсітэта, правінцыі Хэбэй, выкананыя ў традыцыйнай тэхніцы жывапісу гохуа тушшу і мінеральнымі фарбамі. Кітайскі нацыянальны жывапіс гохуа — жывая спадчына з больш чым чатырохтысячагадовай гісторыяй. Яго рэлігійныя і эстэтычныя каноны склаліся пад уплывам розных філасофскіх традыцый — будызму, даасізму і канфуцыянства.

Выстаўка ўключае разнастайныя жанры ўсходняга жывапісу: пейзажны «горы і вада», партрэтны, анімалістычны, жанр «кветкі і птушкі». Прадстаўлены два асноўныя кірункі жывапісу Кітая — «Гун Бі» і «Се І».

Тэхніцы «Гун Бі» ўласцівая дакладнасць у напісанні дэталяў, выразная прамалёўка элементаў карціны. Яго развівалі прыдворныя акадэмічныя мастакі. Партрэты імператараў, шляхты, роспіс палацаў і інтэр'ераў, побытапісанні двара — асноўныя сюжэты гэтых майстроў. Апавядальны, дэкаратыўны і маляўнічы парадны жывапіс з дбайнай прапрацоўкай дэталяў адлюстраванага. У «Гун Бі» мастак, часта на шоўку, контурам стварае вытанчаны малюнак, а затым рупліва запаўняе яго тонавымі пераходамі.



Пазней з'явілася паўднёвая школа «Се І», якая злучыла ў сабе філасофію, паэзію і каліграфію. Майстры аддавалі перавагу манахромнай і свабоднай манеры, сцвярджалі спантаннае бачанне. Тут мастакоў адрозніваюць віртуозны кампазіцыйны лад, пачуццё, перажыванне і асэнсаванне хуткаплынных імгненняў, інтуітыўнае пранікненне ў сутнасць таго, што адбываецца, імправізацыя і ўжо ў апошнюю чаргу — знешняе падабенства з маляваным прадметам. У «Се І» мастак «перш пэндзля бачыць ідэю». Няма эскіза — толькі вобраз у свядомасці аўтара. Па завяршэнні атрымліваецца карціна, падобная да накіду, але напоўненая жыццём, паэзіяй і дакладным адлюстраваннем сутнасці таго, што адбываецца. Уяўная незавершанасць мае на мэце дыялог аўтара і гледача — давяршэнне працы адбываецца пасля, пры разглядзе скрутка.

Мастак каментуе малюнак — візуальны вобраз — паэтычным радком або эпіграмай і ставіць пячатку, некалькі адбіткаў з іменем або псеўданімам аўтара ці кароткі верш.



Выкарыстоўваючы адны і тыя ж традыцыйныя прыёмы і малюючы адны і тыя ж сюжэты, кітайскія мастакі дасягаюць дзіўнай разнастайнасці ў творчасці дзякуючы спалучэнню старажытнай традыцыі і індывідуальнага стылю.

Выстаўка працуе да 28 жніўня.

**Таццяна ШЫМУК**



**Персанальная выстаўка «З зямлі падымаю яблык…» мастака Генадзя Чыстага адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, дзе прадстаўлена больш як 15 акварэльных аркушаў.**

# Духмяны водар яблыкаў

Асаблівы густ, прафесіяналізм ды імкненне да сапраўднага і прыгожага вылучылі Генадзя Рыгоравіча сярод іншых мастакоў яшчэ на пачатку творчай дзейнасці. Доказам непаўторнага аўтарскага падыходу, пабудаванага на традыцыйнай кампазіцыйнасці і сюжэтнасці, з'яўляюцца створаныя ім музеі: Музей-сядзіба Францішка Багушэвіча «Кушляны», Мемарыяльны дом-музей М. Багдановіча (г. Яраслаўль), Літаратурны музей Кузьмы Чорнага, «Фальварак Ракуцёўшчына», Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» і іншыя.

Акрамя актыўнай працы ў якасці афарміцеля, Генадзь Чысты займаецца стварэннем мастацкіх карцін. Асобнае месца ў творчасці майстра займаюць нацюрморты з яблыкамі — сімваламі жыцця і вечнасці. Выстаўка «З зямлі падымаю яблык…» раскрые для наведвальніка натуральную прыгажосць простых рэчаў, якія нас акаляюць.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Адзінаццаць плюс адзін

**Тэатралы ведаюць: у Беларусі 29 дзяржаўных тэатраў, 11 з якіх знаходзяцца ў сталіцы. І ў верасні на адзін стане больш: на сцэну Беларускага акадэмічнага тэатра музычнай камедыі практычна на ўвесь верасень з Расіі «пераселіцца» трупа Свярдлоўскай музкамедыі.**

Вялікія гастролі вядомага расійскага тэатра пройдуць пад дэвізам «Зноў у Мінску!» невыпадкова — уральцы былі ў сталіцы Беларусі роўна тры гады таму, пакінулі вялікае ўражанне і атрымалі запрашэнне вярнуцца як мага хутчэй. Абяцанага, як у казцы, чакалі тры гады.

Свярдлоўская музкамедыя зноў едзе ў поўным складзе: калектыў у 235 чалавек — усе вядучыя салісты, хор, балет, Экспэнтрык-балет Сяргея Смірнова, інструментальная група «Ізумруд», вакальны гурт «Нон-сола», сімфанічны аркестр і нават ансамбль выхаванцаў Дзіцячай студыі. А з імі — дэкарацыі, касцюмы і сцэнічнае абсталяванне вагой у 55 тон.

Афіша гастроляў складаецца з 10 назваў. Чатыры з іх ужо вядомыя мінчанам па гастролях 2012 года: відовішчны спектакль «Кацярына Вялікая», пацешная камедыя «Цётка Чарлі», музычнае настальжы «Парк савецкага перыяду» і драматычная гісторыя першага кахання са зманліва-эпатажнай назвай.

Астатнія шэсць спектакляў у Мінску будуць паказаныя ўпершыню. Асаблівую ж увагу прыцягвае мюзікл «Яма». Зусім новы твор, напісаны адмыслова для Свярдлоўскай музкамедыі па матывах аднайменнай аповесці Аляксандра Купрына. Сусветная прэм'ера адбылася ў Екацярынбургу ў 2013 годзе. Пастаноўку ажыццявіла тая ж каманда з Масквы, што сем гадоў таму стварыла «Кацярыну Вялікую».

Самыя знаёмыя назвы афішы — класічны брадвейскі мюзікл «Скрыпач на даху» і расійскі хіт з музыкай Максіма Дунаеўскага «Пунсовыя ветразі». Класіка аперэты прадстаўленая двума творамі Імрэ Кальмана: «Графіня Марыца», якая ў дакладнасці паўтарае знакамітую пастаноўку Будапешцкай аперэты, і «Герцагіня з Чыкага», рэдкая госця ў Расіі і Беларусі, пастаўленая з брадвейскім шыкам камандай з ЗША.

Сапраўдным падарункам для маленькіх гледачоў абяцае стаць спектакль «Котка» — мюзікл пецярбургскага кампазітара Уладзіміра Баскіна па матывах знакамітай казкі Р. Кіплінга «Котка, якая гуляла сама па сабе». У якасці «музычнага бонусу» Свярдлоўская музкамедыя дасць у Мінску два канцэрты на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў з удзелам інструментальнай групы «Ізумруд» і вакальнага праекта «Нон-сола».

**Таццяна ШЧЭРБА**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 20.08.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2034.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1485 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.